E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 7 (36) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛІПЕНЬ 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## 15 ліпеня

## Літвіны на Грунвальдзе



Фота У. Шлапак

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

# Мы – ёсць, мы – будзем

Сучаснае грамадства немагчыма ўявіць без дзейнасці грамадскіх арганізацый і ініцыятыў. Многія з іх як імкліва з'яўляюцца, гэтак жа хутка знікаюць, часам паспеўшы выканаць сваю галоўную задачу, а часам не. Тым не менш, іх дзейнасць мае пэўны сэнс і адыгрывае тую ці іншую ролю ў жыцці краіны.

Аднак ёсць такія арганізацыі, дзейнасць якіх з часам не губляе сэнс, а наадварот, пашыраецца, набывае новыя формы. Як правіла, менавіта такія арганізацыі здольныя прыцягнуць да сябе максімальную колькасць актыўных грамадзян, тым самым маючы выдатны шанс дзейсна паўплываць на развіццё грамадства.

Адзначаючы 15-гадовы юбілей Таварыства, міжволі задумваешся пра унікальнасць нашай арганізацыі, яе месца і ролю ў Беларусі. У чым феномен жывучасці арганізацыі, яе трывалага высокага рэйтынгу сярод іншых грамадскіх утварэнняў?

Таварыства беларускай мовы паўстала напрыканцы савецкай эпохі, у той перыяд, калі тагачасныя грамадскія інстытуцыі (партыйная, камсамольская, піянерская арганізацыі) перажывалі крызіс, выкліканы неадпаведнасцю іх дзейнасці патрэбам грамадства. Заснаванне Таварыства беларускай мовы выклікала надзвычай станоўчую рэакцыю ў беларускім грамадстве, асабліва ў інтэлігенцыі. Аднак спатрэбілася нямала часу і намаганняў, каб арганізацыя, створаная па загадзе зверху, пераўвасобілася ў сапраўдны народны рух за родную мову.

Кожнае гаспадарчае прадпрыемства ці якое іншае аб'яднанне грамадзянаў перажывае перыяды ўзлётаў, росквіту, крызісу, заняпаду. Трэба ўмець адчуваць дух часу, прадбачыць накірунак руху грамадства. Толькі тады адпаведныя намаганні дадуць плён і прывядуць да поспеху. Калі б Таварыства беларускай мовы не набыло сапраўднай дэмакратычнай атмасферы, калі б паміж сябрамі, незалежна ад іх сацыяльнага статусу, не ўсталяваліся адносіны поўнага даверу, узаемапавагі і ўзаемадапамогі, напэўна, не было б такой зладжанасці ў нашай дзейнасці, а значыць, магло не ажыццявіцца мноства патрэбных спраў.

Адрэзак часу ў 15 гадоў – як і ўсё ў гэтым свеце – велічыня адносная. Для развіцця краіны гэта не так шмат, а ў жыцці аднаго чалавека 15 гадоў значаць многа. За гэты час можна набыць адукацыю (раней нават вышэйшую), а яшчэ за гэты перыяд можа вырасці і сфармавацца як асоба – Чалавек.

У Таварыства часта прыходзяць маладыя людзі менавіта такога веку, становяцца сябрамі нашай арганізацыі, жадаючы накіраваць свае маладыя сілы, свае здольнасці, свой талент на карысць Бацькаўшчыне. І калі сустракаешся з такімі слаўнымі маладымі людзьмі, знаёмішся з іх творамі, напісанымі пад уплывам прачытаных гістарычных кніг, разумееш – Таварыству беларускай мовы няма альтэрнатывы. Менавіта мы ў адказе за нашу моладзь, за яе будучыню і будучыню нашай краіны. І калі юная дзяўчынка, равесніца нашай арганізацыі, толькі год пражыўшы на Беларусі, здолела палюбіць нашу гісторыю так, што напісала вялікую паэму пра Вітаўта, значыць, мова наша і сучасная, і мілагучная.

У тым і заключаецца місія нашага Таварыства, каб дапамагчы раскрыцца нашай таленавітай моладзі праз актыўную грамадскую дзейнасць па абароне самага святога права чалавека - права на родную Мову.

**Алена АНІСІМ,**
**старшыня Рады ТБМ Мінска,**
**галоўны рэдактар**
**Новага Часу**

# Слова памяці пра брытанскага вучонага і калегу



Пітэр Джон Мэё памёр у красавіку гэтага года. Смерць яго была раптоўнай і нечаканай для ўсіх, і для самога Пітэра таксама, ён збіраўся прыехаць у Мінск для далейшай працы над слоўнікам, яго чакалі – але ўбачыцца не давялося, прыйшла чорная вестка.

Пітэр Джон Мэё – вядомы англійскі славіст, знаўца беларускай мовы, сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Англа-беларускага таварыства ў Вялікабрытаніі. Такіх брытанцаў, якія вывучылі нашу мову, ды не проста размоўны варыянт, а сталі ў ёй прызнанымі спецыялістамі, – адзінкі, а можа, наогул Пітэр Мэё быў адзіны на ўсю Вялікабрытанію

Нарадзіўся Пітэр Мэё 16 лютага 1944 года ў Лондане. У 1966 годзе скончыў Бірмінгемскі універсітэт. У 1982 годзе атрымаў ступень доктара філалогіі. Даследаваў граматыку беларускай і рускай моў, лексікаграфію беларускай мовы. Аўтар «Граматыкі беларускай мовы» (1976), раздзела «Беларуская мова» ў калектыўнай манаграфіі «Славянскія мовы» (1993), шматлікіх артыкулаў па пытаннях беларускай мовы, рэцэнзій.

У 1977–1988 гадах рэдактар «The Journal of Byelorussian Studies», з 1989 года – рэдактар аддзела рэфератыўнага бібліяграфічнага даведніка «Modern Language Studies», адзін з рэдактараў Англійска-беларуска-рускіх слоўнікаў (1995, 2004).

Апошнія гады жыцця Пітэр Джон Мэё актыўна супрацоўнічаў з групай лінгвістаў-лексікографаў Цэнтра «Слоўнік» Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта па ўкладанні Англійска-беларускага слоўніка, які цяпер рыхтуецца да друку.

Ён некалькі разоў наведваў Беларусь, любіў і тонка адчуваў нашу родную мову, ахвотна падарожнічаў, каб пазнаёміцца з Беларуссю, ахвяраваў свае сродкі і час на карысць Беларушчыны.

Смерць Пітэра Джона Мэё – вялікая страта для ўсіх, хто любіць беларускае слова. Ён быў добры абаяльны чалавек, сапраўдны вучоны па натуры, інтэлектуал, высакародны рыцар асветы. Вельмі шкада, што мы страцілі цудоўнага сябра.

**Супрацоўнікі НМЦ «Слоўнік»**
**Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта**

# Родную мову нам даў Бог

## *Таварыства беларускай мовы – наша адзіная служба самавыратавання. Іншай няма*

Пятнаццаць гадоў таму беларуская мова была нагэтульկі задушана ў нашай сацыялістычнай айчыне, што нават тагачасныя партыйныя ўлады адчулі свой хамскі грэх і дазволілі стварыць ТБМ імя Францішка Скарыны – для ачысткі ўласнага сумлення і змякчэння крытычных настрояў інтэлігенцыі. Гэта быў першы нязвычны дазвол на грамадскае самалячэнне духоўнай пухліны.

Сёння сітуацыя з беларускай мовай, на маю думку, горшая, чым была «пры саветах». І, насмелюся сказаць, каб не дзейнасць ТБМ, яна была б зусім кепская. Праўда, ёсць людзі, якія лічаць, што цяпер лепш, бо да мовы звярнулася гарадская моладзь, адукаваная, свядомая, і няма ў ненавіснікаў беларушчыны ўжо фальшывага казыра, які яны раней выцягвалі з-пад манжэты – што гэта мова цёмных вяскоўцаў, «крестов» – на «інтэрнацыянальным» слэнгу савецкіх гадоў. Але на ўзроўні дзяржаўным, грамадскім – мова церпіць толькі страты. Наш урад і парламент («лепшыя сыны і дачкі народа») зрабілі ўсё, каб вывесці мову з ужытку ў Нацыянальным сходзе, ва ўсіх міністэрствах, на заводах, фабрыках, сярод калгаснага кіраўніцтва, у інстытутах, універсітэтах, дзіцячых садках і, зразумела, у войску і Адміністрацыі прэзідэнта. Можна сказаць, яна не чутна паўсюдна, толькі рэшткі засталіся ў школе асобнымі ўрокамі з тым жа статусам, як фізкультура.

Безумоўна, што такая абыякавасць да роднай мовы для нас ніякая не навінка. Прызвычайванне да правінцыйнага статусу можна прасачыць углыб некалькіх стагоддзяў. Прынцыповая розніца толькі ў тым, што раней статус правінцыі, якую русіфікавалі ці паланізавалі, навязваўся ў выніку ваенных дзеянняў, а цяпер гэта старанна выконвае сама ж абыякавая да нацыянальных інтарэсаў улада. Асабліва яна рупілася пра негатыўны імідж беларускай мовы, калі «мы» збіраліся ў рускамоўны Саюз Славянскіх Рэспублік. Зараз ужо верхні эшалон чынавенства не надта туды пхнецца, але, відаць, спадзеі на нейкі цуд яшчэ тлеюць. І таму ўжыванне беларускай мовы па-ранейшаму лічыцца праявай нязгоды з вярхоўнай воляй – «нацыяналізмам», які выступае супраць той інтэрнацыянальнай прыгажосці, якую дае руская мова.

ТБМ – відавочная перашкода на шляху самагубнай інтэрнацыяналізацыі. ТБМ цяпер такая супольнасць, якую немагчыма забараніць. Бо яна не партыя, не грамадская ініцыятыва, не мае штатаў, як, прыкладам, Акадэмія навук, дзе можна правесці скарачэнні старых вучоных і абмежаваць прыём новых ці скараціць фінансаванне на даследаванні. Яна аб`ядноўвае тых, каму падабаецца размаўляць па-беларуску, хто любіць гучанне роднага слова, хто разумее жахлівыя наступствы для краіны ад страты мовы. ТБМ – гэта супольнасць людзей з аднолькавым настроем сэрца. Хто можа загадаць сэрцу не біцца? Ну, Сталін загадваў. Але ж сёння для гэтага трэба зноў мець СССР. Не шмат ахвотнікаў да такога адраджэння.

Што можа зрабіць ТБМ, калі вядзецца сапраўдная інфармацыйная война супраць нашай мовы, калі Беларусь топяць у расійскай культуры кожны дзень праз музычныя перадачы для моладзі на незлічоных FM-станцыях, праз візіты палітыкаў, зорак расейскай эстрады і сатыры, дзейнасць праваслаўнай царквы, кніжны рынак, агульныя вайсковыя вучэнні, «славянскія базары», уласныя каналы тэлебачання? Улады нікога не пытаюцца, гнуць сваё. Усе падобныя мерапрыемствы і акцыі апраўдваюцца інтарэсамі «ўзаемнага абагачэння брацкіх культур», дзяржаўным двухмоўем, якое нібыта абраў наш талерантны філалагічна адораны народ, пажаданнямі тэлегледачоў і г. д.

На гэтакім фоне нават бяскрыўдныя прапановы ТБМ, прыкладам, «Спявайце па-беларуску», «Размаўляйце па-беларуску», «Беларускія каляды», выклікаюць супраціў нашай выгадаванай пятай калоны. І спяваць ёй смешна, і размаўляць, і святкаваць па-беларуску.

Бяда наша ў тым, што сёння амаль кожны часта ці зрэдку але становіцца ў шэрагі гэтай непаважнай калоны. Сеў глядзець БТ, а яно рускамоўнае – вось і падтрымоўваеш сваім слыхам. Захацеў дазнацца навінаў з недзяржаўнай газеты, а яны амаль усе рускамоўныя, – вось пакрысе і русіфікаваўся. На іхную радасць.

Ну, з якой, скажыце, мэтай было называць шчыра прарасійскую газету «Беларускай газетай» ці «Беларускім рынкам»? Якая задума парадзіла рускамоўную «Белорусскую деловую газету»? Назвалі б шчыра: «Русская газета», «Русский рынок»? «Русская деловая газета». Чаго хітраваць і ваду муціць! Ці «Хартыя`97». Раней неяк трымалася павагі да мовы, нават тарашкевіцай падавала матэрыялы, цяпер «інтэрнацыяналізавалася» – рускамоўны сайт з англійскай версіяй. Таксама пайшла насустрач народным пажаданням?

Тое ж і з нашымі палітыкамі, якія любяць паўтараць, што «палітыка – мастацтва магчымага». Намагаюцца запаліць рускім «глаголам» сэрцы людзей. А па-беларуску язык не варочаецца. Вось такія магчымасці. Цяжка зразумець, які ж сэнс тоіцца ў іхняй такой палітыцы? Можа, сапраўды лепей далучыцца да Расеі пад назвай «Беларускі край», і тады з краявога бюджэту не прыйдзецца выдаткоўваць грошы на марыянетачных міністраў і аперэтачных дэпутатаў, на свае пасольствы ў розных дзяржавах. А давядзецца плаціць толькі «аклад» губернатару, ды сэканомленую рэшту пускаць на ахову здароўя.

Звычайна тлумачаць, што палітыкі шукаюць падтрымкі простых людзей, а тыя выхаваны ў рускамоўнай школе. Журналісты ж гоняцца за накладам, а, на іх думку, пра палітыку і пра рынак чытаюць болей рускамоўныя. А беларусы – пра тое, як кабана забіць і кілбасы напхаць пальцам. І усе разам дружна забываюцца на той дарунак, які даў нам Бог.

І толькі ТБМ аб`ядноўвае людзей, якія шануюць божы дар свайго слова і заклікаюць да гэтага іншых. За пятнаццаць гадоў такіх пабольшала насуперак тым, хто імкнецца скарыстацца моўнай маёмасцю суседа. І таму я за тое, каб ТБМам стаў увесь наш народ.

**Станіслаў ЖЫГОРСКІ,**
**дызайнер**

# Дзе адшукаць «свой шлях»?

**Размова дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валерыя Фралова з пісьменнікам Б.Яўгенавым аб надзённых эканамічных праблемах Беларусі**

### Наш «статус кво»

**Б.Яўгенаў.:** Ёсць людзі, якія ўпэўнены, што, прыходзячы да ўлады, трэба абавязкова ўсё рушыць і скрушаць? З жадання разбурыць да асновы папярэдні «свет насілля», а потым пабудаваць «наш, новы свет», ужо аднойчы нічога добрага не атрымалася. Хутчэй за ўсё, не атрымалася, што не рухаліся «ад раней дасягнутага». Пагадзіцеся, Валерый Дзімітравіч, – каб ісці далей, неабходна рэальна ведаць, што сёння мы маем. Таму давайце паспрабуем правесці такую «інвентарызацыю». Вось, па-першае, галоўная рэальная каштоўнасць, якой мы валодаем, ёсць наша суверэнная дзяржава. Мы – самастойныя.

**В.Фралоў.:** Толькі не ў выніку палітыкі нашага кіраўніцтва. Нам проста пашанцавала.

**Б.Я.:** Згодны, але гэта неістотна. Важнасць мае вынік: мы пратрымаліся, абмінулі ці адсунулі той крызіс, які нам усе прарочылі. Мы ні да кога не далучыліся, нікуды не «ўліліся». Гэта ставяць у заслугу Лукашэнку...

**В.Ф.:** Але гэта ж смешна – лічыць дасягненнем Лукашэнкі тое, што яму, як ён ні намагаўся, не ўдалося зрабіць.

**Б.Я.:** Тым не менш, мы – суверэнная дзяржава. Што з гэтага вынікае?

**В.Ф.:** Само па сабе, канечна, гэта сур'ёзны капітал. І ўласны голас у ААН, і магчымасць гандляваць з пастаўшчыкамі сыравіны і спажыўцамі прадукцыі ці транзітных паслугаў, выбіраючы найбольш зручныя для сябе ўмовы. І сур'ёзная роля ў забеспячэнні бяспекі сумежных краінаў...

**Б.Я.:** Далей усё будзе залежыць толькі ад таго, наколькі мы самі будзем разумныя і паслядоўныя.

**В.Ф.:** Нам будуць патрэбныя не толькі розум і паслядоўнасць, але яшчэ і рашучасць. Бо прыйдзецца праводзіць рынкавыя рэформы ва ўмовах, калі грамадства гэтакім рынкам моцна запужана. І, будзем шчырымі, – гэтая боязь мае рэальныя падставы. Узяць, да прыкладу, тую ж «прыхватызацыю». Мы, безумоўна, не так далёка зайшлі, як Расія, дзе гэтыя, мякка кажучы, «рынчнікі» аддалі купцы алігархаў асноўныя багацці краіны, пакінуўшы 90 працэнтаў насельніцтва падманутымі. Але ж і нашы людзі аказаліся падманутыя – не алігархамі, дык уладай. Вось і дыскрэдытавалі саму ідэю рынку. Але яшчэ болей, чым рынкам, нашых людзей напужалі дэмакратыяй. Тут прыйдзецца шмат прыкласці сілаў, каб растлумачыць людзям, што такое дэмакратыя і з чым яе ядуць.



### Дэмакратыя: міф і рэальнасць

**Б.Я.:** А хто будзе тлумачыць? Калі нават у людзей больш-менш падрыхтаваных у галовах сумбур. Нядаўна ў адной кампаніі зайшла гаворка пра дэмакратыю. Мой прыяцель, вядомы эканаміст, выказаў такую думку:

– А ўсё ж Лукашэнка зрабіў у Беларусі неверагоднае: ён не толькі захаваў прамысловасць, але і не дапусціў той развал, які ўсе чамусьці называюць «дэмакратыяй».

Пачуць гэтакае ніхто не чакаў. «Усенароднаабранага» ў гэтай кампаніі не шанавалі ўсе, не выключаючы эканаміста.

Пацягнулася паўза. А эканаміст падліў газы ў агонь:

– Ці шмат добрага прынесла людзям дэмакратыя? Павальны крадзеж, карупцыю, бязмежныя злоўжыванні!

І мы заспрачаліся аб дэмакратыі.

**В.Ф.:** Шчыра кажучы, я не разумею, пры чым тут дэмакратыя... Бяда ў тым, што ў нас часцяком назваць – азначае тое ж, што і зрабіць. З-за гэтага бальшыня з нас дзесяцігоддзямі была ў палоне ў міфаў кшталту «будаўніцтва камунізму». А калі старыя міфы скрушыліся, мы хуценька прыдумалі новыя. Вось, напрыклад: «У жніўні 1991 года ў СССР перамагла дэмакратыя».

**Б.Я.:** Неверагодна, але на міф «аб перамозе дэмакратыі» «купіліся» не толькі мы самі, але і Захад.

**В.Ф.:** Маглі б сказаць нам: «Гэй, хлопцы, не падманвайцеся, у вас зусім не тое!» Аднак нашая прапаганда адразу ўчапілася. Вось, маўляў, да чаго давяла краіну дэмакратыя! Да яшчэ дадае страху расійскае тэлебачанне – з усімі жахамі іхных галадовак, забастовак, з рэпартажамі аб тым, з якой хуткасцю абагачаюцца іхныя алігархі...

**Б.Я.:** ... і аб тым, як іх саджалі. Але я вярнуся да ўзгаданай нашай спрэчкі: тады мы пагадзіліся, што дэмакратыя – гэта найбольш дасканалая форма самаарганізацыі грамадства. Але стала відочная іншая праблема: самаарганізацыя магчымая толькі ў прававым грамадстве! У такім грамадстве, дзе ўсталявана ўлада Закону, якая падтрымліваецца і захоўваецца ўсімі! Але хіба жылі мы хоць дзень у такім грамадстве?

**В.Ф.:** Ну, тут адказ зразумелы – безумоўна, не!

**Б.Я.:** Дык вось пытанне: як дамагчыся, каб усе падтрымлівалі Закон? Выхоўваць? Колькі спрабуем, не выходзіць. Прымусіць сіламі правапарадку? Ніякай міліцыі не хопіць!

**В.Ф.:** Не, ні ідэалогія, ні дубінкі тут не дапамогуць. Мне здаецца, гэта магчыма толькі тады, калі людзі будуць самі зацікаўленыя жыць па Законе. Толькі вось дзе ўзяць гэтую зацікаўленасць?..

**Б.Я.:** Адказ будзе не надта складаны: з даўніх часоў толькі ўласнікі заўсёды падтрымлівалі Закон, бо Закон дапамагаў ім сваю ўласнасць захаваць і павялічваць. Менавіта ўласнікі галасуюць свядома. І аддаюць перавагу не харызматычным асобам, а сутнасці прапанаваных праграмаў, калі, зразумела, бачаць у іх магчымасць захаваць і пабольшыць сваю ўласнасць. А значыць, і багацце дзяржавы. Адсюль высновы...

**В.Ф.:** Нармальна жывуць і развіваюцца толькі тыя краіны, у якіх грамадзяне сталі ўласнікамі, як кажуць, гаспадарамі жыцця. Не якія там два-тры дзесяткі алігархаў, а бальшыня грамадзянаў!..

**Б.Я.:** Вернемся да нашай спрэчкі на застоллі. Аб тым, як Лукашэнка «здолеў» ўратаваць нас ад «бардаку» дэмакратыі.

**В.Ф.:** Вельмі проста: мы апынуліся ў грамадстве не свядомых гаспадароў жыцця, а напужаных рабоў, якія ўжо забыліся, што ёсць законнасць і парадак.

**Б.Я.:** Ну, дзеля ўтрымання ўлады гэта, можа, і падыходзіць, бо псіхалогія немаёмных і жабракоў такая, што чым ім хужэй, тым больш шчыльна яны цiснуцца да начальства...

**В.Ф.:** А вось для будучыні краіны, якой даўно час «паварочваць аглоблі» і выбірацца з тупіка ў цывілізацыю, гэта – катастрофа. Нас ніхто на свеце не разумее, ніхто не спяшаецца з намі супрацоўнічаць.

**Б.Я.:** Ну, дык ён і паабяцаў, што «свой народ за цывілізаваным светам не павядзе».

**В.Ф.:** Тут далёкі разлік. Якраз для ўтрымання асабістай і неабмежаванай улады гэта і робіцца.

**Б.Я.:** Разумныя суседзі нам толькі спачуваюць, як асуджаным на цяжкую хранічную хваробу, і нічым не могуць дапамагчы.

**В.Ф.:** А як, цікава, яны могуць дапамагчы, калі мы самі нічога не робім? Калі мы дасюль не зразумелі, што ўсё – у нашых руках.

### Знайсці свой рытм

**Б.Я.:** Валерый Дзімітравіч, ну, добра, мы не здолелі скарыстацца з тых магчымасцяў, якія лёс добразычліва даў беларусам у выглядзе ўласнай дзяржаўнасці. У суседзяў знайшліся кіраўнікі, якія валодалі разуменнем праблемаў, палітычнай воляй і здольнасцю весці краіны ў патрэбным кірунку. А ў Беларусі такіх не знайшлося.

**В.Ф.:** Вось і адсталі – і ад Літвы, і ад Польшчы, і ад Латвіі, і ад Украіны. І ад Расіі адстаем, хоць узровень жыцця бальшыні насельніцтва там не надта вышэйшы, чым у нас. Адстаем жа мы ад усіх выключна таму, што па стылі кіравання ў нас не дзяржава, а саўгас, і ўсе гэтыя дзесяць гадоў мы развіваліся, як пасрэдны саўгас – згодна з воляй і розумам дырэктара.

**Б.Я.:** І з той хуткасцю, якую ён у стане забяспечыць пры яго «саўковай» адукаванасці. Але пытанне вось у чым: ці мог у нас быць іншы шлях?

**В.Ф.:** Безумоўна. І жылі б не хужэй за суседзяў. І мелі б аднолькавыя з імі поспехі і болей паважны палітычны лад...

**Б.Я.:** Цалкам магчыма і адваротнае – што мы ўжо былі б «пад Расіяй»! Хоць бы таму, што рэвалюцыйнага запалу і шокавай тэрапіі мы б адны не здолелі перанесці.

**В.Ф.:** Што гадаць аб тым, што было б. Мы там, дзе мы ёсць. Ад гэтай печкі трэба і таньчыць.

**Б.Я.:** Але вопыт суседзяў сведчыць, што імклівыя змены і пераход грамадства з аднаго стану ў іншы – з'ява далёка не лёгкая. Узгадайце літоўцаў – чаго ім каштавала рэзкае выйсце з Саюза. Давялося пераажыць зіму без цяпла, пустыя паліцы, эканамічную блакаду, танкі ля тэлевежы.

**В.Ф.:** Канечна, гарачай вады ў іх не было, але былі воля і рашучасць вырвацца з «саўковай зоны». Дзеля гэтага яны здолелі ўсё пераадолець.

**Б.Я.:** Але ж вы разумееце, што мы – не яны. У беларусаў іншыя ўяўленні, іншы менталітэт. І зусім не тая рашучасць... Вось тут і ўзнікае пытанне: калі беларус па натуры абачлівы і запаволены, то можа яму і не патрэбныя занадта рэзкія змены. Вам не здаецца, што змены ў грамадстве павінны быць сумяральныя і з укладам чалавечага жыцця, і з настроямі масаў?

**В.Ф.:** А чаму вы думаеце, што ў нас не можа быць інакш, чым у суседзяў: нетаропка, асцярожна, гэта значыць па-свойму?

**Б.Я.:** Значыць, вы ўсё ж прызнаеце, што нам патрэбны свой шлях?

**В.Ф.:** Гледзячы, што вы называеце «сваім шляхам». Калі мэты, да якіх мы імкнемся, калі накірунак нашага развіцця, дык тут ніякага свайго шляху быць не можа, калі, зразумела, мы жадаем палепшыць жыццё. Глупства вынаходзіць веласіпед – увесь цывілізаваны свет, у тым ліку і нашыя бліжэйшыя суседзі, ужо даўно ўсвядомілі, што ідэям рынку і дэмакратыі няма альтэрнатывы. Калі ж пад «сваім шляхам» вы разумееце хуткасць пераменаў, іхны рытм, дык гэта іншая справа, тут я з вамі пагаджаюся – мы павінны дзейнічаць па-свойму.

### Наш «статус кво»

*(працяг)*

**Б.Я.:** На пачатку нашай размовы мы спрабавалі пералічыць нашы моцныя бакі. Такім чынам, калі «па-першае» мы самастойныя, то, «па-другое», нам ніхто не пагражае. У нас выключна стабільная геапалітычная сітуацыя.

Працяг на стар. 4

# Дзе адшукаць «свой шлях»?

Працяг. Пачатак на стар. 3

Ніводнай краіне ў свеце не патрэбна наша тэрыторыя, нікому не карысная свара ў нас, і нікому не патрэбныя перавароты ў Беларусі... З гэтым вы згодныя?

**В.Ф.:** Цалкам. Для нашых суседзяў – для Еўропы і для Расіі – сапраўды найважней, каб мы надзейна забяспечвалі транзіт. Гэта толькі афіцыйная прапаганда нас пужае шпіёнамі і падрыўной дзейнасцю сусветнага імперыялізму ці Расіі. Усе зацікаўлены ў тым, каб сітуацыя ў нас была прадказальная. Ну, напрыклад: пакуль Расія актыўна стабілізуецца, дык гэта непазбежна прымушае яе клапаціцца і аб нашай стабільнасці, нават насуперак яўным антыпатыям расійскага кіраўніцтва да нашага кіраўніка дзяржавы. Бо болей за 50 працэнтаў расійскі рынак арыентаваны на Еўропу, гандлёвы абарот з Еўропай у Расіі расце, а ездзіць у Еўропу, абмінаючы нас, не вельмі зручна. Тое ж і з Еўрасаюзам – ён усё больш шчыльна звязваецца з Расіяй, а значыць, таксама зацікаўлены ў нашай стабільнасці.

**Б.Я.:** Іншаш кажучы, усё нашае атачэнне, варта яшчэ раз гэта падкрэсліць, зацікаўлена менавіта ў тым, што найбольш дорага беларусам – у нашай самастойнасці і стабільнасці. Гэта дае нам магчымасць спакойна агледзецца і выбраць прыярытэты...

**В.Ф.:** Гэтыя прыярытэты зноў жа вызначаюцца тым, што на сёння мы маем. А маем мы – і гэта «па-трэцяе» – прамысловасць, у тым ліку зборачныя гіганты, такія як БелАЗ, МАЗ, «Інтэграл», «Гарызонт», «Атлант» з дзесяткамі тысяч працаўнікоў. Гэтая прамысловасць захавалася ў нас з часоў СССР. Проста іншага выйсця тады ў нас не было. Узгадайце забастоўкі, калоны рабочых на праспекце Скарыны дзесяць год таму. Паабяцаўшы «запусціць заводы», Лукашэнка атрымаў падтрымку рабочых, а на вёсцы ён атрымаў падтрымку сялянаў, паабяцаўшы захаваць звычныя ім калгасы.

**Б.Я.:** Не важна, што рабіць гэтак, хутчэй за ўсё, было не трэба. Тым не менш, няхай і супраць законаў эканомікі, ацалелі гігантскія калектывы.

**В.Ф.:** Болей за тое, у неспрыяльных умовах, практычна без інвестыцыяў, на маральна-састарэлым абсталяванні, праўда, на таннай сыравіне, заводы не толькі захаваліся, але і развіваліся. Але калі, хоць і з вялізнымі праблемамі збыту, беларуская прамысловасць усё ж існуе, то трэба глядзець на гэта як на дадзенае. Вось наш «самастойны» і самабытны стан непазбежна вызначае наш выбар шляху.

**Б.Я.:** Як вы сабе ўяўляеце гэты наш шлях?

## Жыццё дыктуе свае арыенціры

**В.Ф.:** Наш шлях вызначаюць найперш абставіны, у якіх мы апынуліся. Зачыніць заводы, згарнуць прамысловасць мы ўжо ніяк не можам. Гэта азначала б атрымаць армію беспрацоўных, якіх некуды падзець, і нарадзіла б дэстабілізацыю, канфлікты і крызіс.

**Б.Я.:** Але і эфектыўна развіваць нашы заводы далей у нас таксама не атрымаецца. Ва ўсялякім разе, пры арыентацыі на свае магчымасці і ўласныя патрэбы.

**В.Ф.:** Згодны. З аднаго боку, ніякай сыравіны ў нас практычна няма, энерганосьбітаў таксама... З другога боку, столькі тэлевізараў, колькі мы нават зараз выпрабляем, столькі трактараў, халадзільнікаў, МАЗаў, тым болей БелАЗаў, нам для сябе не патрэбна.

**Б.Я.:** Дык якое ж выйсце?

**В.Ф.:** У тым і справа, што ў нас няма іншага выйсця, апроч... пашырэння знешняга рынку і актывізацыі знешняй палітыкі. Пры гэтым існаванне прамысловых гігантаў набывае для нас стратэгічны характар. Падахвочваючы нас не проста да пошуку знешніх партнёраў – як для атрымання сыравіны, так і новых рынкаў, а партнёраў стратэгічных, гэта значыць пастаянных і надзейных, якія будуць прывязаныя да нас не меней, чым мы да іх. Бо, купляючы нашы гіганцкія БелАЗы, любая краіна аказваецца тэхналагічна да нас прывязаная, – потым іх нічым не заменіш. Як, натуральна, і трактары – замена нават часткі трактарнага парку ў нашых спажыўцоў патрабуе змены і сельскагаспадарчай тэхналогіі, і ўсяго сэрвісу, інакш кажучы, абыдзецца ў вялікія грошы.

**Б.Я.:** Але да нядаўняга часу практычна адзіным такім «стратэгічным» партнёрам была Расія.

**В.Ф.:** Так. Добрых восем гадоў мы з поспехам карысталіся яе нестабільнасцю. Расія вялікая, а мы – маленькія. Нейкія сілы там мелі ў нас патрэбу. Гэтыя сілы, уключна з тагачасным кіраўніцтвам Расіі, падтрымлівалі нас не толькі з-за традыцыйных сімпатыяў да беларусаў, але яшчэ і з-за складанасці свайго становішча. На чым удала іграў Лукашэнка. Мы атрымоўвалі танную сыравіну і расплачваліся па бартэры сваімі таварамі, кошты на якія павышалі, як толькі маглі.

**Б.Я.:** Але ж цяпер сітуацыя змянілася. І падаецца, што не на нашу карысць.

**В.Ф.:** Сапраўды змянілася. Сёння мы бачым параўнальна стабільную Расію, якой ужо няма патрэбы паддобрываца да нас, ды яна і не можа дазволіць сабе забяспечваць нам тое, што мы мелі да гэтага часу... Але ўзгадаем: няма ліха без дабра.

**Б.Я.:** У чым жа вы бачыце гэтае дабро?

**В.Ф.:** У тым, што, страчваючы стабільнасць з-за новай сітуацыі на Усходзе, мы вымушаны паварочвацца да еўрапейскай эканамічнай прасторы. Само жыццё прымушае. Тым больш, што пры нашым нармальным развіцці патрэбы сённяшняй Расіі нас і не могуць задаволіць. Напрыклад, толькі 35–40 працэнтаў нашых трактароў ідзе ў Расію, а нашмат болей расіянам і не трэба.

**Б.Я.:** А каму мы з нашымі трактарамі і тэлевізарамі патрэбны на Захадзе?

**В.Ф.:** Дзесяць год мы сапраўды былі не надта патрэбныя. З той прычыны, што Еўропе было не да нас, тым болей з нашай непрадказальнасцю. Дзесяць гадоў там займаліся праблемамі з былой ГДР, з адзінай валютай, з развалінай Югаславіяй... Але цяпер гэтыя праблемы вырашаныя. Еўропа аб'ядналася. Ужо становіцца рэальнасцю вялізная эканамічная прастора, здольная лёгка паглынуць усё, што мы вырабляем і зможам вырабіць.

**Б.Я.:** Вы малюеце мне нейкі неверагодны сон...

**В.Ф.:** Нічога неверагоднага. Зусім жа не ў снах, а на яве і Еўропа, і Амерыка літаральна завалены таварамі з былых каланіяльных, слабаразвітых краінаў і краінаў, якія развіваюцца. І адзеннем, і бытавой тэхнікай, і прадуктамі, і будаўнічымі матэрыяламі. А ў Беларусі перад ускраіннымі дзяржавамі ёсць відавочная перавага. Мы – у цэнтры. Нас можна абысці, але гэта нявыгадна. Больш выгадна нас падтрымаць, дапусціўшы да свайго рынку...

**Б.Я.:** А што ж тады з Расіяй?

**В.Ф.:** Зразумела, нават атрымаўшы доступ да еўрапейскага рынку, адносіны з усходнім суседам, прыкметна сапсаваныя нашай мядзведжай дыпламатыяй, нам трэба выпраўляць, мацаваць і развіваць – ва ўсім тым магчымым маштабе, які Расія нам можа забяспечыць. А пры правільнай знешняй палітыцы эканамічнае сяброўства з Захадам істотна ўзмацніць і нашыя пазіцыі на Усходзе...

Праўда, да гэтага нам прыйдзецца яшчэ нямала прайсці. І ад сяго-таго пазбавіцца.

## «Маўр» можа ісці

**В.Ф.:** Усё мы можам, але пры адной умове...

**Б.Я.:** ???

**В.Ф.:** Гэтая ўмова палягае ў тым, што мы зменімся. Настолькі, што здолеем праводзіць разумную знешнюю палітыку, якая будзе базіравацца на не менш разумнай палітыцы ўнутранай. І Беларусь апынецца ў цывілізаванай сістэме каардынатаў.

**Б.Я.:** Дык чаму ж затрымка?

**В.Ф.:** Калі ў свеце ўсё вымяраецца ў метрычнай сістэме, дык у нас не павінны заставаца «пуды». А вось на гэта сённяшняе кіраўніцтва, якое ўпарта не разумее, што сучасная краіна – не саўгас, не мае здольнасцяў. І нашае выйсце – у яго ным сыходзе. Для будучага жыцця псіхалогія дырэктара саўгаса ніяк не падыходзіць.

Найперш не падыходзіць палітыка самаізаляцыі і «апірышча на ўласныя сілы»: не пойдзем, маўляў, кланяцца «жулікам з МВФ». Не падыходзяць пункты адліку і арыенціры, калі вяршыняй мары для нас становіцца дзевяностых год. Не прыдатнае нам і тое, з чым і як мы параўноўваем, як падлічваем. Цуды афіцыйных лічбаў беларускай статыстыкі, тыпу фантастычнага росту ВУП, добрыя толькі для падтрымкі амбіцыяў аднаго палітыка. Для астатніх яны – «лапша на вушы», накшталт лічбаў пастаяннага росту валавай вытворчасці, якія так захалыхвалі генсекаў. А патрэбна нарэшце зразумець, што калі і мы не правядзем рынкавыя рэформы, а нашыя прававыя нормы не будуць адпавядаць дэмакратычным прынцыпам, да нас проста ніхто не прыйдзе. І мы ні да кога прыйсці не зможам.

**Б.Я.:** Вы лічыце, што менавіта таму расійцы так настойліва патрабуюць прыватызацыі нашых прадпрыемстваў?

**В.Ф.:** Так. З нашай дзяржавай як з суб'ектам эканомікі расійскія прадпрымальнікі проста не жадаюць мець справу. «Залатыя часы» першапачатковага назапашвання капіталу, калі абагачэнне адбывалася якраз за кошт дзяржавы, якую зручна падманваць, скарыстоўваючы інтарэсы карумпаванага чыноўніцтва, там ужо праходзяць.

**Б.Я.:** Але ж тое самае і з Захадам?

**В.Ф.:** Зразумела, тое ж. Нашы людзі, якія практычна працавалі з Захадам, убачылі, што і там мець справу з нашай дзяржавай як з гаспадаром ніхто не спяшаецца... Нават тыя краіны, якія толькі што ў Еўрасаюз прынятыя, тая ж Польшча, Літва, сваю палітыку ў адносінах Беларусі пастаянна звязваюць з рэальным ходам дэмакратычных пераменаў у нашай краіне. Чым менш свабодаў і дэмакратыі, чым далей мы ад свабоднага рынку, тым меней у нас шанцаў атрымаць статус паўнапраўнага партнёра. А тут мы засцята стаім на месцы.

**Б.Я.:** Згодна з ацэнкай Сусветнага банку прасунутасці рынкавых рэформаў у сферы змяненых адносінаў (па 10-бальнай шкале), Беларусь, маючы 1,3 бала, займае апошняе месца. Вышэй за нас Сербія і Чарнагорыя (4,8), Боснія і Герцагавіна, Македонія, Балгарыя, Расія і Украіна, Харватыя (от 6,2 да 7), а ўсе астатнія наогул маюць ад 9,2 да 10 балаў.

**В.Ф.:** На словах у нас замежнаму інвестару прапануецца ўсё, уключна з павышанымі гарантыямі. Аднак нам не вераць і да нас не ідуць, бо ніхто не можа пачувацца камфортна на «капіталістычных выспачках» у моры «саўковай» эканомікі. Хуткага і вялікага прыбытку тут не атрымаеш, а ўкладзеныя грошы згубіць цалкам магчыма. Той жа «Форд» пачынаў выпуск мікраахтобусаў пад прэзідэнцкія гарантыі... Дзе гэтыя мікраахтобусы?

**Б.Я.:** Там жа, дзе і гарантыі!

**В.Ф.:** Вось-вось, і справа, на жаль, не толькі ў дзяржаўнай беззаконнасці, але і ў нашай псіхалогіі, нашым глухім неразуменні правілаў, па якіх жывуць і працуюць усе. Павага да прыватнай уласнасці і да законаў, у тым ліку і рынкавых, добрасумленная праца, гатоўнасць свядома і ў поўным памеры плаціць падаткі – усё гэта павінна стаць для нас натуральным. Гэта і ёсць шлях да дэмакратыі і свабоднага рынку.

## Бягом – ад «рынкавага сацыялізму»

**Б.Я.:** Свабодны рынак – гэта якраз тое, чым нас пужае афіцыйная прапаганда.

**В.Ф.:** Тым не менш, нават тое, што ў нас прыбавілася за дзесяць гадоў, з'явілася дзякуючы рынку, няхай нават слабому, прымітыўнаму і захаванаму ў недарэчную уніформу пад назвай «рынкавы сацыялізм»

**Б.Я.:** Але пачатак дзевяностых, калі ў выніку частковай лібералізацыі эканомікі – памятаеце, адпусцілі цэны? – грошы абзцэніліся, а паліцы агаліліся, мностам людзей узгадваецца, як кашмарны сон.

**В.Ф.:** Спажывецкі попыт змяніўся з таго часу радыкальным чынам. Нават аўтамабілі, як гэта ні парадаксальна на фоне нашага беднага жыцця, даўно з прыкмет заможнасці часоў савецкай эпохі сталі банальным сродкам руху. Так што не гэтак ужо і мала атрымалі мы ад рынку.

**Б.Я.:** Вы хочаце сказаць, што ад сацыялізму як ад другога складніка лукашэнкаўскага тэрміну «рынкавы сацыялізм» мы атрымалі меней?

**В.Ф.:** Нічога, апроч абяцанак, не атрымалі. Кватэры ад дзяржавы не дачакаешся, як ні працуй, камунальныя паслугі штомесяц з'ядаюць сямейны бюджэт, мізэрнасць «бясплатнай» аховы здароўя вядомая кожнаму, таксама як і мізэрнасць пенсіяў, і немагчымасць вучыцца і жыць за дзяржаўную стыпендыю.

Зараз самаробны «рынкавы сацыялізм» у нас крок за крокам здае свае пазіцыі. І ўсё болей людзей прыходзяць да высновы, што ён нам не патрэбны. А патрэбны нармальны свабодны рынак. Калі ўсё – і праца, і матэрыяльныя даброты – каштуюць столькі, колькі яны каштуюць. І даступныя ўсім, хто зарабіў на іх сваёй працай. Як ва ўсім свабодным свеце. Дзе не толькі парадак і дысцыпліна, але і нязвычна высокія для нас нормы спажывання.

**Б.Я.:** Але рынак дапускае жорсткую канкурэнцыю, ці не так? Гэтым народ і запужваюць.

**В.Ф.:** Канкурэнцыя зусім не азначае, што безупынна будзе таннець рабочая сіла, – у чым, дарэчы, наш рэжым надта вызначыўся – за кошт падману і жорсткага ўціску рабочых і сялян. Рынак пачынаецца з забеспячэння плацежаздольнага попыту, гэта значыць з дастатку пакупніка, а не з эксплуатацыі бяспраўнага і безабароннага работніка. Бо ў чым найперш зацікаўлены любы вытворца, любы капіталіст? – у тым, каб прадаць свой тавар! А як ён будзе прадаваць, калі навокал адна галота? Вось і атрымліваецца, што шлях да рынку – гэта шлях да дабрабыту кожнай сям'і.

**Б.Я.:** Такім чынам, ідзем да рынку, але пры гэтым ні на хвіліну не забываем аб нашых нацыянальных асаблівасцях?

**В.Ф.:** Так, безумоўна, і асабліваць гэтая ў тым, каб, здзяйсняючы рынкавыя рэформы і прыватызацыю, мы пазбягалі несправядлівасці і жульніцтва. Рэформы павінны быць справядлівымі і чалавечнымі. Ну, напрыклад, можна ўвесці пэўныя дзяржаўныя абмежаванні, каб не раздзіраць грамадства жахлівай розніцай даходаў найбольш бедных і найбольш заможных сем'яў. Немаёмасныя слаі насельніцтва трэба падтрымліваць, выдзіраючы іх з галечы.

## Якія інвестыцыі нам патрэбны

**Б.Я.:** Валерый Дзімітравіч, а ўсё ж што гэта значыць – атрымаць доступ да еўрапейскага рынку?

**В.Ф.:** Аб гэтым варта сказаць больш падрабязна. Каб не склалася ўражанне, што я наіўна мяркую, бышцам у Еўропе спяць і бачаць нашыя тавары – на сваіх паліцах, а нашыя трактары на сваіх палях. І толькі мараць аб тым, як бы падсілкаваць нашы прамысловыя гіганты.

**Б.Я.:** Дык што з намі рабіць? Грошы даць? Дапамагчы інвестыцыямі?

**В.Ф.:** Наогул, так. Але пытанне толькі ў тым – якімі? Размова ідзе не аб простым укладанні сродкаў у нашы прадпрыемствы для іх мадэрнізацыі, а пра інвестыцыі ў тым сучасным сэнсе, як іх разумее цывілізаваны свет. Гэта інвестыцыі не толькі тэхналагіяў, але і комплекснага падыходу да вырашэння вытворчых і сацыяльных праблемаў. Інвестыцыі іхніх правілаў.

**Б.Я.:** На самой справе вы гаворыце аб укараненні ўсёй еўрапейскай культуры вытворчасці і арганізацыі жыцця?

**В.Ф.:** А інакш там ужо ніхто не працуе. Грошы, зразумела, укладаюць прыватнікі, але сочаць за захаваннем правілаў дзяржава і ўсё грамадства. І любыя рэканструкцыі адбываюцца без выкідвання людзей на вуліцу і ўсялякай іншай «шокавай тэрапіі», якая ў нас непазбежна справакавала б сацыяльны выбух і парушыла б нашу стабільнасць, ад якой так залежаць сёння Еўропа і Расія.

Толькі з дапамогай такіх інвестыцыяў можна атрымаць сучасныя прадпрыемствы, якія пастаўляюць на сусветны рынак прадукцыю сусветнага ўзроўню і сусветных стандартаў.

**Б.Я.:** Такім чынам, кажучы пра наш доступ да еўрапейскага рынку, вы маеце на ўвазе...

**В.Ф.:** ...доступ да інвестыцыяў у самым шырокім сучасным цывілізаваным сэнсе. Лёс наш у тым, што з гэтакай жа непазбежнасцю, як непазбежны наш паварот на Захад, мы атрымаем і доступ да гэтых інвестыцыяў. Гэта патрэбна не толькі нам, але і ім. Нам – бо інакш мы прападзем. Ім – бо ў гэтым закладзена вялікая эканамічная карысць.

Мы сапраўды можам стаць «мостам» паміж Усходам і Захадам, выдатным мостам, па якому ідуць не толькі нафта і газ, цягнікі і аўтамабілі, а транспартуецца агульнаеўрапейская тэхналагічная, эканамічная, сацыяльная і палітычная культура. Але стаць такім надзейным мостам – для нас не мэта, а толькі сродак дзеля дасягнення галоўнага: будоўлі ўласнага годнага дома. Упэўнены, што да ўсеагульнай палёгкі, бо ўсе лічаць за лепшае мець прыстойнага суседа з добрай хатай, чым убогага няшчаснага пагарэльца.

# «Мы таксама людзі і жадаем жыць»

***Вось лозунгі, з якімі штогод выязджаюць на пікеты інваліды-калясачнікі: «Дэмакратыя – гэта роўныя правы і магчымасці», «Падаткі, што вымагаюць з інвалідаў, – блюзнерства», «Прэзідэнт, калі пачнуць працаваць нашыя законы?», «Дзяржава, інваліды ў цябе ёсць»...***



Сацыяльны ролік пра інвалідаў-калясачнікаў, што круцяць па беларускай тэлевізіі, звычайна выклікае пачуццё жалю, спагады, у свядомых, магчыма, – віны.

Але пасля размовы з тымі, каму ў жыцці не пашчасціла, становіцца зразумелым, што не ўсе гледачы перажываюць падобныя пачуцці. Ёсць сярод іх і тыя, каму інваліды час ад часу пераходзяць дарогу. Не складана здагадацца, што за пачуцці наведваюць архітэктараў і будаўнікоў, якія пры ўзвядзенні чарговага аб'екта «забываюцца» пра пандус; гарадскія ўлады, якія ніяк не закажуць МАЗу, а той не выпусціць нізкапольны з трапам «на капейку даражэйшы за серыйнай камплектацыі» (Хаміцэвіч А.М., намеснік кіраўніка ўпраўлення маркетынгу МАЗ) аўтобус, які, дарэчы, ужо заказалі і атрымалі ад МАЗа ўлады Масквы і тамтэйшы Дэпартамент абароны насельніцтва. А яшчэ што адчувае кіраўніцтва каледжа мастацтваў, якое, летась праводзячы рамонт-рэканструкцыю будынка, не жадала ўлічваць патрэбы людзей з асаблівасцямі перамяшчэння («У нас не збіраюцца навучацца інваліды!»). Прыкладаў «шчырых памкненняў» нашага грамадства да стварэння безбар'ернага асяроддзя шмат. Пра яго ж, пра гэта самае асяроддзе, пачынаючы з 2001 года (менавіта тады і быў прыняты дадзены накірунак дзейнасці), не перастаюць распавядаць і чыноўнікі. Толькі вось тэксты плакатаў «свежага» травеньскага звароту інвалідаў да ўлады, як і ў 2001-м, гучаць аднолькава: «Мы таксама людзі, і жадаем жыць», «Прыстасаванае жыллё – гэта неабходнасць», «Аўтамабіль – не раскоша», «Дэмакратыя – гэта роўныя правы і магчымасці», «Падаткі, што вымагаюць з інвалідаў, – блюзнерства», «Прэзідэнт, калі пачнуць працаваць нашыя законы?», «Дзяржава, інваліды ў цябе ёсць»... Пра розныя аспекты жыцця інвалідаў-калясачнікаў карэспандэнт газеты Алеся Матусевіч размаўляла са старшынёй Цэнтральнага праўлення Савета ГА «Рэспубліканскай асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў» (РАІК), героем узгаданага роліка Сяргеем Драздоўскім і актывістам РАІК, перакладчыкам Валянцінам Драздом.

## Абыякавасць уладаў

**А.Матусевіч:** Мінула два месяцы з таго часу, як сябры РАІК правялі на плошчы Бангалор пікет змагання за роўныя правы. Тады пікетоўшчыкі падпісалі ліст да прэзідэнта з пералікам праблемаў і прапановамі па іх вырашэнні. Прайшло дастаткова часу, каб адчуць зрухі да лепшага ці да горшага...

**С. Драздоўскі:** Пакуль ніякай рэакцыі ўладаў нам не даводзіцца адчуваць. Звычайна вынікі з'яўляюцца ў верасні-кастрычніку. З году ў год (гэты раз быў чацвёрты) мы выходзім з тымі самымі патрабаваннямі. Надпісы на нашых плакатах не мяняюцца. Але з кожным годам мы адчуваем, як пагаршаецца наша становішча. У адносінах да нас не выконваюцца асноўныя канстытуцыйныя правы. Напрыклад, мы як грамадзяне Беларусі, толькі з-за таго што на калясцы, не можам скарыстацца правам на працу, на адпачынак, на адукацыю, не можам выконваць перад дзяржавай свае абавязкі. І не таму, што мы нейкія асаблівыя грамадзяне, а таму, што акаляючае асяроддзе першапачаткова не прыстасавана: не ўлічваюцца нашыя асаблівасці.

**А.М.:** Але, што перашкаджае вам, скажам, атрымліваць адукацыю? Паводле нашага заканадаўства, пры залічэнні ў ВНУ інвалід мае перавагу перад звычайным абітурыентам, а не наадварот.

**С.Д.:** А вы ніколі не задумваліся, чаму на Беларусі так многа інвалідаў (420 тысяч. З іх ад 8 да 12 тысячаў па прыкладных падліках самой РАІК – інваліды-калясачнікі. – **А.М.**) і так нямнога з іх пры дадзеных «спрыяльных» умовах патрапляе ў нашыя навучальныя ўстановы? Перад тым як паступаць, інвалід павінен вырашыць пытанне з давозам да навучальнай установы.

**В.Д.:** Па-другое, непрыстасаванасць саміх будынкаў: што казаць пра пашырэнні ліфтаў і дзвярэй, калі пры ўваходах адсутнічаюць пандусы. Або яны маюцца, але зробленыя пад амаль вертыкальным вуглом (вугал нахілу стандартнага пандуса роўны 8–20 градусам – **А.М.**), што ўз'ехаць немагчыма. І не варта спрабаваць, бо, з'язджаючы, хутчэй за ўсё выпадзеш з каляскі... Дык гэта старыя будынкі. Некаторыя нядаўна адбудаваныя, той жа Палац Рэспублікі, і блізка не адпавядаюць дзяржаўным стандартам будаўніцтва. Відаць, будаўнікі палічылі, што інвалідам мерапрыемствы, якія будуць праходзіць пад дахам гэтага будынка, не цікавыя. Насамрэч, аказалася, што знаходзячыся ў будынку, мы парушаем супрацьпажарную бяспеку. Зноў жа, мы прапанавалі дэпутатам «прашпацыраваць» у нашых калясках па капітальна адрамантаваным праспекце Скарыны. Прапанова ніяк усур'ёз не ўспрымаецца.

**С.Д.:** Напрыклад, мэр Нью-Йорка Джуліяні не толькі аб'язджаў свой горад на калясцы, ён цэлымі днямі праводзіў у ёй, каб дакладна пабываць у скуры інваліда. Дарэчы, наша грамадства ўспрымае інваліда як чалавека нейкага іншага гатунку. Чамусьці людзі не дапускаюць, што ён можа быць выдатным прафесіяналам у пэўнай сферы або займаць пасаду ва ўладзе. Напрыклад, Клінтана абараняў адвакат у калясцы. Шмат інвалідаў у Савеце Еўропы. У ЦРУ спецыяльна выкарыстоўваюць працу інвалідаў, бо даўно заўважана, што яны больш уседлівыя, талерантныя, пільныя. Да нас у летнік неяк прыязджала інструктар, якая кіруе ў спецыяльных органах пяцідзесяццю мужчынамі. Нарэшце, Рузвельт быў на калясцы... Гэта толькі здаецца, што вышэй пералічаныя моманты не ёсць вялікай праблемай. Але менавіта гэтыя «не праблемы» вырашаюць усё.

## Папяровыя льготы

**С.Д.:** Мы маем шмат ільготаў на паперы. Скарыстацца ж імі ў паўсядзённым жыцці немагчыма.

**А.М.:** Напрыклад.

**С.Д.:** Напрыклад, ільгота на праезд у гарадскім транспарце. Па-першае, наш гарадскі транспарт так і застаецца не прыстасаваным: у яго немагчыма патрапіць на калясцы. Па-другое, навошта вясковаму жыхару гэтая льгота.

**В.Д.:** Гэта не льгота, яе няма. Некалькі гадоў назад узнікла ідэя набыцця пры ГАРВЫКАНКАМе спецыяльна абсталяванага аўтобуса-сацыяльнага таксі. Але гэтая справа так на ўзроўні ідэі і засталася.

**С.Д.:** Або 50-працэнтная аплата жылля і камунальных паслугаў. Яна дзейнічае, толькі калі ты жывеш адзін. У нас жа амаль ва ўсіх запісана, што нам неабходны пастаянны староннi догляд. То бок дзяржава прапісвае нам догляд і тут жа ставіць умову. Такія нестыкоўкі сустракаюцца ў многіх сферах. І, на жаль, у нашай краіне ніхто не нясе ніякай адказнасці за падобную дыскрымінацыю. Ну вось яшчэ адзін прыклад. Мы можам карыстацца льготамі пры абкладанні падаткамі, калі гэта не гандаль, і не пасрэдніцкая дзейнасць, але вытворчасць. Займацца вытворчасцю, седзячы ў калясцы, немагчыма.

## Пенсійнае забеспячэнне

**А.М.:** Раскажыце пра пенсіі, якія атрымліваюць розныя катэгорыі інвалідаў, і пра дадатковыя магчымасці зарабіць грошы інвалідам-калясачнікам?

**С.Д.:** Пенсійнае забеспячэнне розніцца. Калі, да прыкладу, чалавек «зламаўся», яшчэ не меўшы працы, у шаснаццаць, у яго, зразумела, няма працоўнага стажу, ён атрымлівае сацыяльную пенсію па інваліднасці ў 14 тысячаў рублёў. Калі ён атрымаў траўму ў васемнаццаць, грошай яму плацяць больш. Розніцы паміж патрэбамі першага і другога амаль ніякай, а пенсіі розныя.

**В.Д.:** Калі траўма атрымана ў арміі ці на прадпрыемстве, пенсія будзе пад дзвесце тысяч і больш.

## Працаўладкаванне

**С.Д.:** Дадаткова зарабіць грошы мажліва перакладчыцкай дзейнасцю, прадпрымальніцкай, некаторыя незаконна таксуюць, нехта сядзіць на рынку: прадае ці просіць грошы. Людзі самі сабе прыдумваюць заняткі, а не Цэнтр занятасці, які павінен гэтым займацца. ЦЗ займаецца збіраннем папер і даведак. Калі ты іх усё ж сабраў, цябе ставяць на ўлік, а далей... нічога не атрымліваецца. Прадпрыемствы не жадаюць браць інвалідаў (Паводле адміністрацыйнага рэсурсу, кожнае прадпрыемства з колькасцю больш за 20 чалавек павінна браніраваць 5% працоўных месцаў для інвалідаў – **А.М**). Але гэта ўжо пытанне ЦЗ, які павінен прапанаваць умовы, каб зацікавіць працадаўцаў. Калі не атрымліваецца – выйсці да ўладаў і змяніць існуючую сістэму. Гэта іх задача, за гэта яны атрымліваюць грошы.

**А.М.:** На колькі спрыяльная ў нас заканадаўчая база ў адносінах да інвалідаў?

**В.Д.:** Наша заканадаўства не спрыяе жыццю як асобы, так і функцыянаванню арганізацый. Чаму асобы? Таму што яна не мае ніякіх фактараў, якія б стымулявалі яе да культурнага і цікавага жыцця. Я ведаю, што ў той самай Швецыі чалавек, які атрымаў траўму і працуе, нават калі ён атрымлівае зарплату, якая меней за сярэднюю ў дадзенай галіне, дзяржава кампенсуе яму гэтыя грошы. Па-другое, калі ён працуе (сярод калясачнікаў дзевяноста адсоткаў могуць працаваць), ён мае льготы на атрыманне крэдыту для набыцця аўтамабіля. Там ёсць ільготы і ў сферы падаткаў для тых, хто ахвяруе грошы на справы дабрачыннасці, пэўнымі льготамі карыстаюцца і працадаўцы. Там робяць так, каб людзям, якія самі не могуць зарабіць грошы, знайшліся тыя, хто можа іх даць. І каб гэта было аднолькава добра для першых і для другіх. У нас жа , наадварот, абкладаюць падаткамі тых, хто дапамагае.

Мы прапаноўвалі зняць працэнты, калі грошы ідуць на дабрачыннасць. Намеснік міністра па падатках і зборах асабіста мне адказала: «Скажыце дзякуй, што яшчэ Вас не абкладваюць за тое, што гэтыя грошы атрымліваеце». Такая вось пазіцыя дзяржавы ў гэтых адносінах.

Працяг на стар. 6

# «Савушкин продукт»

## Уражлівы плён білінгвістычных дызайнераў і рэклямістаў беларускай прадукцыі

У Беларусі апошнім часам зьявілася «дзіўная» мода: крамы, прадукты і нават гадлёвыя маркі называюцца быццам бы па-беларуску, але чамусьці пішуцца, так бы мовіць, у расейскай транскрыпцыі. І атрымліваецца вельмі недарэчна, а часам і сьмешна. Магчыма, адбываецца гэта з білінгвізму, які параненйшаму пануе ў Беларусі. Магчыма, з-за таго, што нават у прадпрымальніцкай эліты няма яшчэ ўсьведамленьня, наколькі важны нацыянальны аспэкт у прасоўваньні беларускіх брэндаў і якасных тавараў на любы рынак.

У Менску, у мікрараёне Малінаўцы ёсьць фірмовая крама Валкавыскага мясакамбінату са, здавалася б, вельмі трапнай і прыгожай назвай «Сялянскія прысмакі». Але шыльда выглядае вельмі недарэчна – па-расейску «Селянские присмаки».

Менскі хлебазавод №3 выпякае хлеб «Золак» – але на этыкетцы напісана «золок» (праз два о). Фабрыка «Камунарка» з амаль 300 гатункаў цукерак і шакаляду толькі 3 вырабляе пад беларускімі назвамі - гэта цукеркі «Лявоніха», «Знічка» і «Золак», але на фанцьках гэтыя прыгожыя назвы напісаныя расейскімі літарамі. На пачку печыва фабрыкі «Спартак» – «Сонейко». Што да піва, то на этыкетцы гандлёвая марка «Аліварыя» напісана па-беларуску, а побач гатунак піва - па-расейску «Минский бровар», «Золотое», «Десятка». І такіх прыкладаў – безьліч.




Вытворцы, якія называюць свае гандлёвыя маркі і тавары ці па-расейску, ці на трасянцы, тлумачаць гэта імкненьнем захапіць расейскі рынак. Хіба «Еўстах Любанскі» захопіць расейскі рынак? Ёсьць у Беларусі вельмі раскручаны брэнд «Савушкин продукт». Элеанора Ермакова, спэцыяліст па маркетынгу Брэсцкага малочнага камбінату, што вырабляе «Савушкин продукт», прызналася, што назву гэту прыдумала менская рэклямная кампанія. А тое, што ўвесь асартымэнт называецца па-расейску, а не па-беларуску, тлумачыць такім чынам:

«Зараз наша прадпрыемства выходзіць на расейскі рынак, я ня думаю, што там будзе гэта актуальным. Для нас гэта вельмі важна. Зараз мы заваёўваем расейскія рынкі. Таму тут мы ўжо глядзім у будучыню».

Намесьнік старшыні Таварыства беларускай мовы Сяргей Кручкоў быў ініцыятарам некалькіх кампаніяў у СМІ называць брэнды і тавары па-беларуску і ня раз пераконваў беларускіх вытворцаў, што варта гэта рабіць.

«Савушкин продукт» не ўспрымаецца як беларускі прадукт, – гаворыць спадар Кручкоў. – І мы ім гэта тлумачылі. Абурыліся яны – як гэта не беларускі брэнд? Мы адказалі: тады пішыце або «Саўкін прадукт», або «Саўкаў прадукт». Але яны не прыслухаліся да нас. І я лічу, дарэмна. Бо тыя, хто зараз прыслухоўваецца, працуюць на будучыню.

Няма ўсьведамленьня нават у эліты прадпрымальніцкай, наколькі важны гэты нацыянальны аспэкт. Паглядзіце – цукеркі «Лаймэ» латыскія, ці «Дзінтарас» Яны ж дзеля расейскага ці беларускага рынку не называліся «Дзімачка» ці яшчэ як».

Усясьветна вядомыя брэнды, дарэчы, вельмі паважліва ставяцца да беларускай мовы і ўсю інфармацыю для спажыўца пішуць па-беларуску, чаго, на жаль, ня робяць беларускія вытворцы. Так, прадстаўнікі «Дыролу» і «Кэдбэры» зьвярталіся ў ТБМ, каб ім дапамаглі перакласьці анатацыі да новай прадукцыі – жуек са смакам дурніцаў, да прыкладу. І замежнікі не спалохаліся: маўляў, калі ёсьць у беларускай мове ягады дурніцы, можа, гэта спрацуе як сьцёб і прыкол. У бальшыні ж беларускіх вытворцаў вельмі часта цалкам адсутнічае пачуцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці.

Людміла Шастак працуе ў дызайнэрскай фірме і не раз сутыкалася з упартасьцю беларускіх вытворцаў, калі прапаноўвала ім рабіць этыкеткі і пакункі па-беларуску. Вось што яна гаворыць:

«Насамрэч, у беларускай мове вельмі шмат вельмі прыгожых словаў, уласна беларускіх словаў. Але апошнім часам можа з-за двухмоўя пачынаюць усё не перакладаць на расейскую мову, а пісаць як бы транскрыпцыяй. Мне вочы рэжа гэта назва «Криница» – ня толькі піва, але й рэстарацыі «Крыніца». Яны пішуць «Криница» – бог мой, язык зламаць можна, пакуль вымавіш і прачытаеш. Ня ведаю, адкуль гэта ідзе. Можа, сапраўды наша мова – гэта трасянка, наша культура – гэта адсутнасьць усялякай культуры? Не хацелася б, каб гэта было так».

На жаль, пакуль беларускія вытворцы не ўсьведамляюць, што калі тавар вартасны, калі ён сапраўды правільна прасоўваецца на рынак, то беларуская назва толькі дадасьць каларыту й забясьпечыць несумнеўны посьпех на любым рынку.

**Іна СТУДЗІНСКАЯ**
***Радыё Свабода***

# «Мы таксама людзі і жадаем жыць»

Працяг. Пачатак на стар. 5

Заканадаўства ж наша ў адносінах да інвалідаў і арганізацый не горшае, скажам, за расейскае. Іншае пытанне, што яно цалкам не выконваецца, і ніхто пакуль не быў прызваны да адказнасці за гэта.

**В.Д.:** У пачатку дзевяностых, калі ў Вярхоўным Савеце праблемы інвалідаў на ўсю краіну агучваў дэпутат Мікалай Калбаска, нейкія добрыя справы рабіліся. Напрыклад, тады дабрачыннасць не абкладалася падаткамі. Але са зменай улады закон скончыў жыццё амаль самагубствам. Пакуль у заканадаўчым органе не будзе чалавека, падобнага да спадара Калбаскі, справа будзе стаяць на месцы (камісію па сацыяльных пытаннях у Палаце прадстаўнікоў на сёння ўзначальвае інвалід-афганец Камянецкі Сяргей Уладзіміравіч. – **А.М.**).

### Магчымасць уплыву?

**С.Д.:** Ніхто ў дзяржаве не ведае, дакладную колькасць калясачнікаў, як мы жывём, чым жывём...

**А.М.:** То як збіраецеся паўдзельнічаць у восеньскіх выбарах Палаты прадстаўнікоў?

**В.Д.:** У нашым Выбарчым кодэксе не прадугледжана выстаўленне кандыдатаў у дэпутаты ад грамадскіх арганізацый і нават ад такіх вялікіх, як Беларускае Таварыства інвалідаў. Раней квота для грамадскіх арганізацый была. Менавіта дзякуючы ёй і прайшоў сп. Калбаска. Зараз мы павінны ўдзельнічаць у выбарах на ўмовах як і ўсе.

**С.Д.:** А тут мы абсалютна роўныя грамадзяне. Калі ж неабходна патрапіць у Палац Рэспублікі, раптам аказваецца, што і не такія мы ўжо роўныя.

**В.Д.:** Як чалавеку на калясцы абысці свой раён? Як правесці сваю выбарчую кампанію? Мінская арганізацыя Беларускага Таварыства інвалідаў звяртаецца ў Цэнтрвыбаркам за пераглядам рашэння невыстаўлення дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый. Пакуль безспасяхова.

### Летнікі рэабілітацыі

**А.М.:** Раскажыце, калі ласка, пра летнікі актыўнай рэабілітацыі, якія сумесна з Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны ладзіць ваша арганізацыя.

**В.Д.:** Саму ідэю актыўнай рэабілітацыі нам прывезлі шведы яшчэ ў 1997 годзе. З гэтага праекта, можна сказаць, пачалася ўся наша асацыяцыя. Гэта летнікі для тых, хто параўнальна не так даўно атрымаў траўму і не ведае, як самастойна прыстасавацца да новага стану. Спачатку нашымі інструктарамі былі шведы і палякі. Летась мы ўжо абышліся без замежнікаў.

**С.Д.:** Кожнаму ўдзельніку летніка бясплатна выдаецца каляска актыўнага тыпа Барысаўскага прадпрыемства УДА «Гамма», зробленая па швецкім узоры актыўнай каляскі.

**А.М.:** Колькі каштуе такая каляска?

**С.Д.:** За мяжой – каля паўтары тысячы даляраў. У нас – каля трохсот. Але хоць і робіць прыватнае Барысаўскае прадпрыемства на шведскі ўзор (Мінскі мотавела-завод, па словах некаторых інвалідаў, робіць не каляскі, а дамавіныдыванкі, у якіх нават па хаце незручна перамяшчацца. – **А.М.**), шведскія каляскі лепшыя. Каляскі, пражыванне і харчаванне ў летніку аплачвае Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Мы праводзім летнікі на базе санаторыя ў Баранавічах. У Швецыі – гэта звычайная школа. У Польшчы, ва Украіне – спартыўныя базы.

**А.М.:** Ёсць у нас аналагі летніка?

**С.Д.:** Не.

**А.М.:** А як можна патрапіць у летнік вясковаму жыхару?

**С.Д.:** Праз сабесы. Спісы фарміруюцца імі.

**А.М.:** Ці існуе нейкая чарга?

**С.Д.:** Так, некаторым чакалі сваёй змены па два-тры гады. Мы ж у сваю чаргу імкнемся набраць больш актыўных. Напрыклад, сёння яму(ёй) патрэбна ісці на вучобу, а да новага стану чалавек яшчэ не прыстасаваўся. Як не ўзяць?

### Стаўленне грамадства

**А.М.:** Атрымаўшы траўму і застаўшыся інвалідам, вельмі складана выстаяць. Ці частыя выпадкі, калі ад беспрасвецця чалавек апускае рукі, замыкаецца ў сабе і ўжо больш не жадае мець ніякіх стасункаў з гэтым грамадствам?

**В.Д.:** Напрыклад, я больш часу праводжу дома. І я не зважаю на адносіны грамадства да мяне, даўно не спадзяюся на яго, а проста раблю сваю справу.

**С.Д.:** З-за бытавой неўладкаванасці сярод інвалідаў ёсць нават выпадкі самагубстваў. Летась дзяўчына каля дваццаці пяці – дваццаці шасці год атруцілася. Гэты выпадак стаў шырока вядомым грамадству. А колькі выпадкаў, пра якія ніхто не ведае? І родныя, зразумела, не стануць нікому расказваць. Ёсць такі інвалід-калясачнік Рычард Паўлоўскі, які ставіў пытанне аўтаназіі яшчэ ў праграме «Выбар». Ён спрабаваў даказаць, што наша дзяржава павінна дазволіць аўтаназію, таму што не можа выконваць абавязкі перад намі.

**А.М.:** Гэта яго пазіцыя. А якая ваша?

**С.Д.:** Я супраць. Таму што гэта адразу прывядзе да таго, што інвалідаў пачнуць знічтажаць. Я лічу, што наша грамадства да гэтага яшчэ не падрыхтаванае.

**А.М.:** У які бок змяняецца грамадская свядомасць? Лепш ці горш зараз ставяцца людзі да інвалідаў?

**С.Д.:** Калі казаць пра звычайныя бытавыя стасункі, то лепш. Калі здараецца нейкая паломка, людзі пытаюць, чым можна мне дапамагчы. Але ж, калі я прыходжу да чыноўніка, гэта той жа чалавек, тут пачынаецца: «Нічым не магу дапамагчы, не чаляйцеся...» Я паўтараюся, але адносіны дзяржава – інвалід сапраўды пагаршаюцца: бярэцца Закон аб сацыяльнай абароне і нязручныя чынавенству артыкулы з яго выкідваюцца. Праграмы па рэабілітацыі – тое самае. Дзяржава адказвае нам на нашыя просьбы: «Гэта немагчыма». Інваліду машыну прыходзіцца чакаць 8–10 гадоў і бачыць салюты, якія адным залпам «выстрэльваюць» яго аўтамабіль, яго сувязь з грамадствам. Або справа 38 мэрсэдэсаў?! Адзін з іх мог пакрыць каля дзесяці аўтамабіляў. Я так разумею, калі забяспечыў усіх людзей – тады ўжо і гуляй..

**А.М.:** Што можна парадзіць тым, хто нядаўна патрапіў у вашу катэгорыю?

**В.Д.:** Хутчэй зразумець ім і іх блізкім, што жыццё на гэтым не скончылася. Як толькі прыйдзе разуменне гэтага, чалавек пачынае жыць паўнацэнным жыццём.

**С.Д.:** Першае ўражанне чалавека, які трапляе ў нашу кампанію – гэта шок, ад таго, што аказваецца нас так нечакана многа. Другое ўражанне – гэта таксама шок, ад таго, што мы смяёмся і радуемся гэтаму жыццю.

**А.М.:** А што дапамагае пераадольваць унутраныя і знешнія праблемы?

**В.Д.:** Каб у новым становішчы адчуць сябе нармальна, патрэбны іншыя людзі, якія таксама перамяшчаюцца на калясцы, і на іхнам прыкладзе магчыма будзе задаць сабе пытанне «Калі можа ён, чаму не магу і я?» Гэта найлепшы шлях.

**Гутарыла**
**Алеся МАТУСЕВІЧ**

# Чаму літва пісала «па-руску»

Ігар ЛІТВІН

## Гэты артыкул аб тым, наколькі былі блізкія паняцці Літва і Русь

**Карыстальнікі інтэрнэта, магчыма, знаёмыя з кнігай «Затерянный мир», выстаўленай на ўласным сайце Ігарам Літвіным, матэрыял якога мы прапануем чытачам. Яго віртуальная кніга – гэта асабістыя трактоўкі беларускай гісторыі. Ігар Літвін – не прафесійны гісторык. Тым болей цікавыя яго ацэнкі падзеяў старажытнасці, наогул гісторыі, бо ён незалежны ад навуковай рэдактуры і навуковай жа цэнзуры. Літвін разважае і робіць высновы на падставе таго, што прапанавалі чытачам даследчыкі і нікому не падпарадкаваная духоўная гістарычная спадчына. Па сутнасці, яго кніга (і ў прыватнасці, гэты матэрыял) адлюстроўваць разуменне нашага мінулага грамадзянінам, які зацікаўлена глядзіць на родную даўніну. Кніга выклікае вострую палеміку. Многія наведвальнікі сайта, асабліва з нашых суседзяў, рэагуюць на выказаныя там тэзы з нязгодай і агрэсіяй. Таму мы вырашылі пазнаёміць чытача з адным з раздзелаў гэтай кнігі, апрацаваным аўтарам для газеты. Падаем тут адрас сайта для тых хто зацікавіцца: http:// www.litvin.org**

У часы сярэднявечча паняцці «Літва» і «Русь» былі вельмі блізкія, а нярэдка проста супадалі. Яшчэ ў XIX стагоддзі Пушкін засведчыў у «Барысе Гадунове»: «Литва ли, Русь ли, что гудок, что гусли: все нам равно, было бы вино...»?

Хутчэй усяго, найменне «Літва» адносілася да шматнацыянальнай дзяржавы, а назва «рускія» акрэслівала прыналежнасць да славянаў. Самай вялікай славянскай дзяржавай сярэднявечча, несумнеўна, было Вялікае Княства Літоўскае, дзе назва дамінуючага этнасу – «рускія» – часта распаўсюджвалася на ўсіх грамадзянаў ВКЛ таксама, варта зазначыць, як і «літвіны», «літва». Многія нашыя сучаснікі яшчэ памятаюць нешта падобнае: «савецкімі людзьмі» звалі ўсіх грамадзян СССР, а для замежнікаў часцей усе былі «рускія», у тым ліку і беларусы, украінцы, казахі і г. д. Можна спрачацца аб тым, ці былі «Літва» і «Русь» назвамі аднога і таго ж, ці Літва ўваходзіла ў Русь; ці Русь уваходзіла ў Літву, ціЛітва і Русь былі часткамі адзінага цэлага – Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (ВКЛ). Бясспрэчна аднак, што сярэдневечная гісторыя Русі–Літвы складае адзінства, а Вільня была галоўным канкурэнтам Масквы ў справе аб'яднання зямель усходніх славянаў. Продкі сучасных беларусаў і ўкраінцаў звалі сябе «рускімі». Паколькі яны ў ВКЛ складалі абсалютную бальшыню, дык дзяржаўнай (і літаратурнай) мовай Вялікага Княства была старaславянская, якая тады звалася «рускай». Пытанне ў тым, наколькі адпавядае гістарычным рэаліям сучасная прывязка саманазвы «рускія»? Каго лічыць іх продкамі? Бо сярэднявечная Русь – гэта ў першую чаргу тэрыторыі сучасных Беларусі, Украіны і Наўгародскай зямлі. Масковія як самастойная дзяржава сфармавалася толькі ў канцы XV стагоддзя, і яна не мае правоў на манапольнае выкарыстанне назвы «Русь».

### Літва і Русь

Існуе нямала гіпотэзаў наконт паходжання назваў «Русь» і «Літва». Дакладнымі звесткамі пра гэта, на жаль, ніхто не валодае, і можна казаць толькі аб большай ці меншай сапраўднасці версіяў. У 839 годзе варагі звалі сябе падданымі «рускага кагана». На якіх тэрыторыях меў уладу «рускі каган», сказаць цяжка. Першая вядомая згадка «Русі» і «Літвы» ў дачыненні да нашага рэгіёну датуецца 1009 годам: у так званых Кведлінбургскіх аналах апісваецца, як святы Бруна загінуў «in confinio Rusciae et Lituae», гэта значыць на памежжы Русі і Літвы. У розны час існавалі «каляровыя» і іншыя назвы тэрыторыяў старажытнай Русі: Белая (Полацак, Віцебск, Смаленск, Вялікі Ноўгарад?), Чорная (Гродзеншчына, або Чарнігаўшчына?), Чырвоная (Подолле), Сіняя (Вялікі Ноўгарад?). Былі Кіеўская і Уладзіміра-Суздальская Русь, у якую ўваходзіла тады яшчэ невялічкая Масква.

На працягу XIII і XIV стагоддзяў адной з найважнейшых задачаў, якія стаялі перад славянамі, было не дапусціць тэрытарыяльнага аб'яднання Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў праз захоп Жмудзі (Жамойціі). Чым скончылася гэтая барацьба – вядома. Поўны разгром рыцараў пад Грунвальдом назаўжды адбіў у іх жаданне ладзіць крыжовыя паходы на славянаў. Грунвальд стаў для немцаў своеасаблівым сімвалам гістарычнай драмы. Таму невыпадкова на пачатку Першай сусветнай вайны, пасля паразы расейскіх войскаў генерала Самсонова пад Грунвальдам, немцы пісалі, што зараз яны «сквіталіся».

### Жмудзь

А як жа продкі сучасных літоўцаў? Яны таксама ўнеслі свой уклад у гэтую перамогу. Праўда, тады яны зваліся не літоўцамі, а жамойтамі (жмудзю). Каб знайсці ў летапісах аукштоту – яшчэ адзін з этнасаў, якія складаюць аснову сучаснай летувіскай нацыі, – прыйдзецца нямала папрацаваць.

Жамайція – гэта прылеглая да мора частка Летувы, якая падзяляла Тэўтонскі і Лівонскі ордэны. Яна была заселена плямёнамі, якія ў той час яшчэ практыкавалі чалавечыя ахвярапрынашэнні і не мелі пісьменнасці. Забраць тэрыторыю Жмудзі спрабавалі рыцары абодвух ордэнаў, каб аб'яднацца па сушы. Вялікія ж князі літоўскія імкнуліся заваяваць Жмудзь для таго, каб мець выйсце да мора і перашкодзіць аб'яднанню крыжакоў. Продкі сучасных літоўцаў – жмудскія плямёны – гераічна супраціўляліся падпарадкаванню іхнай зямлі як Тэўтонскаму ордэну, так і Вялікаму Княству Літоўскаму.

Вялікі князь Вітаўт некалькі разоў займаў Жамойцію, але з-за супрацьдзеяння тэўтонцаў і вайсковых няўдачаў (напрыклад, параза на Ворскле ад татараў у 1399 годзе) змушаны быў чатыры разы (у 1384, 1390, 1398 і 1404 гадах) аддаваць Ордэну Жмудзь. Усякі раз тэўтонцы заўзята браліся за хрышчэнне жмудзі, не спыняючыся перад жорсткімі расправамі. Жамойты паўставалі, а Вітаўт далучаў па частках іх зямлі да ВКЛ ужо як іхні абаронца ад тэўтонскай агрэсіі. Гэтак жа было і напярэдадні Вялікай вайны 1409–1411 гадоў, калі дзякуючы ваеннай дапамозе Вітаўта жамойцкія паўстанцы вымотвалі тэўтонцаў на мяжы з Княствам, палягчаючы тым самым задачу саюзнага войска Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства пад Грунвальдам.

Канчаткова зямля продкаў сучасных літоўцаў апынулася ў складзе ВКЛ праз 12 гадоў пасля Грунвальдскай бітвы. Каб падкрэсліць сваё адрозненне ад літвінаў, яны выпатрабавалі ў Вітаўта аўтаномныя правы і прысутнасць у назве дзяржавы – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Такое дыстанцаванне захоўвалася і пазней. Прыкладам, у попісу войска ВКЛ 1628 года харугвы жамойцкіх паветаў пералічаны асобна ад астатніх.

### Мова Вітаўта

Пад уладай князя Вітаўта знаходзілася велізарная тэрыторыя – ад Балтыйскага да Чорнага мора. Народы, якія жылі на гэтых землях, вызнавалі розную веру. Не рэдкай з'явай было перахрышчванне князёў з адной веры ў іншую, а то і хрышчэнне цэлых народаў. Напрыклад, акрамя язычніцкага імя, у Вітаўта было яшчэ праваслаўнае Юрый і каталіцкае Аляксандр. У вялікага князя Ягайлы таксама было праваслаўнае імя Якаў і каталіцкае Уладзіслаў. Прыкладаў такога роду мноства. Якой жа, кажучы сучаснай мовай, нацыянальнасці быў Вітаўт? Калі ён быў жмудзінам, дык чаму не адстойваў Жмудзь да апошняй кроплі крыві, а выкарыстоўваў яе, як разменную манету ў палітычных камбінацыях таго часу? Сучасныя літоўцы завуць яго «Вітаўтас», але ў ніводным сярэдневяковым дакуменце ён не згадваецца пад такім імем. Ён не мог пісаць на «літоўскай» мове, бо такой пісьменнасці тады не існавала. Сучасным літоўцам, якія бурліва рэагуюць на факты, што абвяргаюць іх прэтэнзіі на гістарычную спадчыну Вялікага Княства, абяцаю, што калі яны знойдуць хоць бы адзіны дакумент, напісаны любым вялікім князем ВКЛ на мове, якая зараз завецца «літоўскай», я апублікую яго ў Інтэрнэце замест сваёй кнігі «Закінуты мір» (**www.litvin.org** ). Дарэчы сказаць, сучасныя літоўцы досыць нервова рэагуюць на ўсё, што ідзе насуперак з іх догмамі. Манера літоўцаў весці гістарычныя спрэчкі ўжо стала асобнай тэмай на гістарычных форумах. Недахоп, а часцяком адсутнасць аргументаў яны спрабуюць кампенсаваць палкімі эмоцыямі і нясціплым жаданнем выкарыстаць нашую гістарычную спадчыну ў якасці сваёй.

Дык на якой жа мове пісаў Вітаўт, дакладней кажучы, яго канцылярыя? Вядомыя ягоныя тэксты на churaнямецкай і старaславянскай. На старaславянскай мове тады пісалі многія народы Усходняй Еўропы. У залежнасці ад тэрытарыяльных асаблівасцяў старославянскай мовы сучасныя лінгвісты вылучаюць, у прыватнасці, старабеларускую і стараўкраінскую. Зразумела, у часы сярэднявечча гэтая мова не лічылася «старажытнай», а была самая што ні ёсць сучасная і звалася «руская». Прывяду тут для прыкладу некалькі радкоў з Граматы вялікага князя Вітаўта, дадзенай 6 сакавіка 1399 года рыжскаму бургамістру на вольны гандаль рыжанаў у Полацку:

*«Мы великги князь Витовт дали есмо сию грамоту буркгимистру ризскому Никгиборгку и всем немцем купцем ризским и иным всем што ж оу Полоцку полочанам добрым людем целовати крест на том што им чинити немцем все оу правду и оу в весех и оу торговли и во всем торговом деле...»*

Усе сучасныя летувіскія гісторыкі, нават разам узятыя, не змогуць пераканаць мяне ў тым, што гэта іхная мова.

Існуе вялікакнязскі дакумент на старанямецкай, у якім Вітаўт сам называе мову, на якой напісаны цытаваны ліст – «рускай»:

*«Allexander andere Witavdt von gotis grosfurs tzu Littouven...*

*und luch euch gutlichen thun und des hab wir unsen* ***russhen*** *hreff gesand...»*

Чытачу, магчыма, будзе дзіўна дазнацца, што паняцці «сярэдневяковая Русь» і «сучасная Расія» досыць няблізкія адно да аднаго. Землі на ўсходзе ВКЛ былі заселеныя ў асноўным людзьмі, якія спавядалі праваслаўе («рускую веру»). Русь у сярэднявеччы – гэта хутчэй тэрыторыі сучаснай Украіны, Беларусі і прылеглыя да іх землі. Тады Масква была невялікім горадам, і Маскоўскае княства не мела сур'ёзнай ролі ў рэгіёне.

Працяг на стар. 8–10







# Чаму літва пісала «па-руску»

Працяг. Пачатак на стар.7

У той час «Русь» і «Масковія» – не толькі розныя землі, але яны яшчэ і змагаюцца адна з адной. Напрыклад, калі масквічы абрабавалі купцоў-літвінаў, Вітаўт адпраўляе свае войскі «літоўскія і рускія» на Маскву. У хроніцы «Літоўскай і Жамойцкай» так апісваюцца гэтыя падзеі:

*«Витолт видячы, ж тое москал за фрашкі собе абвинуў, зобрал свае войски литоўския и руские, тягнул да столицы маскоўскай, палячы, стинаючы, а князь Василь маскоўскай, видячы у панстве сваим немалую шкоду ад литвы, паслаў да Витолта, просячы спакою, чому Витолт не отмовил пад тоею кондициею, абы шкоду хлопом литоўским тые розбойники нагородили и были повешаны все».*

Ягайла, да таго як стаў польскім каралём, быў вялікім князем літоўскім. У 1387 годзе ён ужо вучыў польскую мову, але грамата князю Скіргайлу на Троцкае, Менскае Полоцкае княжанне напісана на «рускай».

Сярод удзельнікаў Грунвальдскай бітвы быў князь Жыгімонт Карыбутавіч. Кожны без цяжкасці прачытае на пячатцы яго бацькі: «ПЯЧАТКА КНЯЗЯ КОРИБУТА». Сучасныя літоўскія гісторыкі сцвярджаюць, што зваць яго трэба «Карыбутас». Чаму мы павінны верыць ім, а не сваім вачам? Падобных прыкладаў мноства. Тэкст на многіх манетах ВКЛ напісаны на латыні, але на «літоўскім» (у сучасным разуменні) няма ніводнай. І не магло быць, бо пісьменнасць у сучасных літоўцаў зарадзілася ў XVI стагоддзі, літаратура ў XVIII – XIX, а нацыянальная дзяржава было створана ў 1919 годзе.

Дарэчы, у тым годзе ўрад Літоўскай рэспублікі звярнуўся да Леніна з патрабаваннем «вярнуць» Метрыку (архіў) Вялікага Княства Літоўскага, якая знаходзілася ў маскоўскім Цэнтральным Дзяржаўным архіве гістарычных актаў. Савецкая камісія на чале з беларускім гісторыкам Доўнар-Запольскім, «пазваная на сустрэчу», прапанавала такі крытэр адбору: Літоўскай рэспубліцы будуць перададзеныя ўсе дакументы, напісаныя на мове, якую зараз прынята называць «літоўскай». Літоўцы пагадзіліся і ... засталіся ні з чым, бо сярод 550 тамоў метрыкі не знайшлося ніводнага дакумента на літоўскай мове. Дакументы ВКЛ напісаны на чатырох мовах: старaславянскай, старапольскай, старанямецкай і лацінскай. З тых часоў літоўцы спрабуюць давесці, што вялікія князі хоць і пісалі на гэтых мовах, але размаўлялі па-літоўску. Хто-небудзь гэта чуў? Чаму мы павінны верыць у тое, што не мае ніякіх пацверджанняў, нават ускосных?

## Імёны князёў

Асобная тэма – імёны вялікіх князёў літоўскіх. Сучасныя літоўцы перарабляюць іх пад правілы сваёй лексікі, а потым «перакладаюць» (Варта не паленавацца і паглядзець на гэтую творчасць на сайце **http://www.lithuania.host.sk/ru/names.htm**). Усё б нічога, ды ёсць праблема – адсутнічае змест абмеркавання. У летапісах ніколі не было ніякіх «Альгірдасаў», «Вітаўтасаў» і г. д. Дахрысціянскія імёны вялікіх князёў у арыгінальным напісанні ніяк не перакладаюцца пры дапамозе сучаснай літоўскай мовы. Ніякай узаемасувязі. Таму што гэта варажскія імёны. Напрыклад, Альгерд у перакладзе са скандынаўскіх моваў азначае *«удар дзіды»*. А згодна з сучаснымі літоўскімі наватворамі: Альгірдас – *вядомы ўзнагароджаннем*, Вітаўтас – *бачны народу*, Гедымінас – *той, хто імкнецца мысліць*. І гэтак далей.

Варта нагадаць, што цэнтры Старажытнай Русі: Ноўгарад, Полацак і Кіеў паўсталі на гандлёвым шляху «з варагаў у грэкі». Зразумела, што і ўплыў скандынаўскай і візантыйскай культураў быў вялікі. Напрыклад, у полацкага князя Рагвалода ёсць скандынаўскі цёзка – Rogwald I Eysteinsson (830 – 890). Калі ў тыя часы ў славянаў было прыкладна пароўну варажскіх і грэчаскіх імёнаў, то зараз, безумоўна, пераважаюць апошнія. З досыць высокай упэўненасцю можна сцвярджаць, што не толькі Вітаўт, але і многія іншыя вялікія князі літоўскія мелі славянскія, у прыватнасці,беларускія карані.

## Палітэізм

Многія лжывыя стэрэатыпы сфарміраваліся адносна нядаўна. Часцяком яны з'явіліся ў сувязі з перапісваннем гісторыі ва ўгоду хрысціянству. Да прыкладу, якім уяўляецца сярэдневяковы чалавек з імем Вінгольд? Уяўленне малюе вобраз скандынава ў рагатым шлеме. Тым не менш ён добра нам вядомы пад сваім хрысціянскім імем – гэта князь Андрэй Полацкі, герой Кулікоўскай бітвы, які ачольваў правае крыло рускага войска. Традыцыі верацярпімасці ў нашага народа былі моцныя, і таму побач мірна ўжываліся праваслаўныя, каталікі, язычнікі, мусульмане. Не многія ведаюць, што, напрыклад, у Мінску службы на капішчы (знаходзілася на беразе Свіслачы ля сучаснай вуліцы Лодачнай) былі спыненыя адносна нядаўна. У 1888 годзе, напярэдадні святкавання 900-годдзя хрышчэння Русі, паліцыя разагнала людзей, што там маліліся, спілавала святы дуб і загасіла зніч. Але святы валун «Дзед» застаўся на месцы і праз некаторы час службы аднавіліся і працягваліся ледзь не да рэвалюцыі. У гады «перабудовы», калі там пачалося будаўніцтва элітнага дома, «Дзед» быў перавезены ў Музей каменяў у мікрараён Уручча.

## Дзяржаўная мова

Самы стары дакумент, напісаны на мове жамойтов – продкаў сучасных літоўцаў, датуецца 1522 годам. А вось Статут ВКЛ, агульнадзяржаўны дакумент, напісаны на мове, не маючай нічога агульнага з сучаснай літоўскай, але лёгка зразумелай беларусам, украінцам або расейцам. Напрыклад, Статуты 1566 і 1588 гадоў напісаныя тады, калі ў летувісаў ужо была не толькі пісьменнасць, але і кнігадрукаванне. Але чамусьці выкарыстана была не іхная мова, а старабеларуская. Зразумела, што законы, а тым больш канстытуцыя, пішуцца на дзяржаўнай мове, а не на чужой. Уявіце, напрыклад, што расійскія правіцелі ўсе пагалоўна былі непісьменныя і не чытаючы, падпісвалі законы, напісаныя да таго ж на мове, вядомай ва ўсім Крамлі толькі якому-небудзь аднаму перакладчыку. І так стагоддзямі. Абсурд! Тым не менш, сучасныя літоўцы, цалкам сур'ёзна спрабуючы давесці сваё дачыненне да гістарычнай спадчыны ВКЛ, паўтараюць як замову, што вялікія князі былі непісьменныя, а ўказы пісаліся на невядомай ім «канцылярскай русінскай» мове запрошанымі з Русі пісарамі-грамацеямі. Гэта ўжо нават не смешна.

## Крыж на гербе

Сучасныя літоўцы сцвярджаюць, што іх продкі з маленькага «племені Літва» заваявалі вялізарную тэрыторыю ад Балтыйскага да Чорнага мора. Калі ж такое адбылося і ў выніку якіх бітваў? Чаму «пераможцы» нічога не навязалі заваяваным народам: ні мовы, ні рэлігіі, ні звычаяў, ні сваёй сімволікі нарэшце? Герб Пагоня быў сімвалам Полацкага княства – аднога з самых старажытных дзяржаўных утварэнняў Усходняй Еўропы. Шасціканцовы крыж, які намаляваны на шчыце вершніка Пагоні, сустракаецца і ў Заходняй Еўропе (Латарынгскі крыж), але адзінай уладальніцай гэтага сімвала ў нашым рэгіёне была дынастыя полацкіх князёў. Такі крыж існаваў у Візантыйскай імперыі. На заказ Ефрасінні Полацкай у 1161 годзе ювелір Лазар Богша стварыў залаты крыж, які стаў нацыянальным сімвалам беларусаў. У 1941 годзе на загад Л.Берыі крыж быў вывезены ў Маскву, дзе яго след губляецца. Пасля атрымання незалежнасці ў Рэспубліцы Беларусь адноўлены вобраз крыжа Ефрасінні Полацкай.

Існуе ўстоянае стэрэатыпнае прадстаўленне аб Літве як аб выключна каталіцкай дзяржаве. Аднак ёсць адрывістае згадванне ў грэчаскім спісе архірэйскіх кафедраў аб літоўскім мітрапаліце, датуемае 1300 годам. Пры Гедыміне, у 1317 годзе была створана пастаянная праваслаўная Літоўская мітраполія з кафедрай у Наваградку, на чале з мітрапалітам Феафілам. Звесткі аб праваслаўным імя Альгерда супярэчлівыя: у адных крыніцах падаецца Андрэй, у іншых – Аляксандр. Пры ім праваслаўным мітрапалітам літоўскім быў Раман.

## «Усяе Русі»

Упершыню ў Маскве свой мітрапаліт – Пётр – з'явіўся ў 1325 годзе. Нібыта на падставе гэтага Іван Каліта стаў першым вялікім князем «усяе Русі». Пры гэтым так званая «усяя Русь» – мізэрны кавалачак Русі. Цяжка чымсьці яшчэ растлумачыць з'яўленне прыстаўкі «... усяе Русі» да тытула маскоўскіх князёў. Могуць быць і іншыя версіі наконт гэтага.

Якой такой «усяе Руссю» валодалі ў Маскве ў 1325 годзе? Калі нават Цвер і Разань былі ёй непадуладныя! Тым больш Кіеў, Чарнігаў, Ноўгарад, Галіцка-Валынская Русь, а ўжо і пагатоў Літоўская Русь (славянскія землі ВКЛ), якая імкліва набірала высокую «вагавую катэгорыю», па сутнасці ператвараючыся ў імперыю. Вайсковы патэнцыял славянскіх земляў ВКЛ і Масковіі ў той час проста непараўнальны. Да прыкладу, у 1324 годзе у часе паходу войска ВКЛ на Польшчу было разбурана 130 сёлаў і 30 касцёлаў, 4 тысячы палякаў узята ў палон. Згодна з пагадненнем 1325 года, ВКЛ вяртала Польшчы 24 тысячы палонных, а палякі канчаткова прызнавалі за ВКЛ Брэсцкае і Драгічанскае (Надбугскае) княствы. У 1326 годзе ваяры ВКЛ пад началам Давыда Гарадзенскага (праўнука Аляксандра Неўскага) дайшлі да Франкфурта-на-Одэры. Аб тым, што ў Маскве ў іх ёсць яшчэ адзін «гаспадар», «вялікі князь Усяе Русі» – Іван Каліта, яны або не ведалі, або ігнаравалі, лічачы гэта клопатам яго падлізлівых падданых. Уявіце, што прэзідэнт якой-небудзь сучаснай Цэнтральнаамерыканскай краіны раптам пачне падпісвацца «Прэзідэнт усяе Паўночныя і Паўднёвыя Амерыкі»?

## Грунвальд

Грунвальдская бітва, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года, карэнным чынам змяніла сярэдневяковую Еўропу. У ёй прымалі ўдзел войскі многіх народаў. Касцяк войска пераможцаў складалі харугвы Польскага каралеўства пад началам Уладзіслава Ягайлы і Вялікага Княства Літоўскага, якія прывёў вялікі князь Вітаўт.

Прапаную чытачу знайсці на карце Літоўскай Рэспублікі пералічаныя Длугашам гарады Вялікага Княства Літоўскага, якія даслалі свае харугвы пад Грунвальд: Troki, Wilno, Grodno, Kowno, Lida, Miednik, Smolensk, Polock, Witebsk, Kijow, Pinsk, Nowogrod, Brzesc, Wolkowysk, Drohiczyn, Mielnik, Krzemieniec i Stare Dubno. Ну як? Знаходзяцца? Нават тыя гарады, якія зараз знаходзяцца ў складзе Летувы (Тракай, Вільнюс, Каўнас і Медзінінкай), сталі называцца так зусім нядаўна – у XX стагоддзі. Напрыклад, на карце 1903 года выразна відаць назвы – Трокі, Вільна, Коўна, Меднікі, а на сярэднявечнай – тым больш.

Вось спіс вядомых харугваў ВКЛ і імёны камандзіраў, размеркаваныя па сучаснай дзяржаўнай прыналежнасці гарадоў:

**Рэспубліка Беларусь**

Брэст
Быхаў
Віцебск
Ваўкавыск
Гародня / Міхаіл Мантвід
Кобрын
Крэва / Ян Гаштольд
Крычаў
Ліда
Лукомль?
Мінск?+Заслаўль? / Юры Міхайлавіч?
Магілёў / Андрэй Уладзіміравіч
Мсціслаўль / Сямён (Юрый?) Мсціслаўскі
Наваградак / Жыгімонт Кейстутавіч?
Орша
Ашмяны?
Пінск
Полацк / Ян Немір
Слонім
Слуцк?/ Аляксандр Уладзіміравіч?

**Літоўская Рэспубліка**

Вялікамір (суч. Укмерге)/ Вежкгайла
Вільня (з 1939 г. Вільнюс) 1-я / Войцах Мантвид
Вільня 2-я / Пётр Гаштольд
Коўна (з 1917 г. Каунас)
Меднікі (суч. Медзінінкай)
Трокі 1-я
Трокі 2-я / Гінвіл
Ушполле (суч. Ушпаляй)/

**Рэспубліка Украіна**

Уладзімір-Валынскі
Кіеў / Іван Гальшанскі
Крамянец
Луцк / Фёдар Астрожскі
Ноўгарад-Северскі / Жыгімонт Карыбут?
Чартарыйск
Падольскія (1,2,3) / Ян Жэдзевід, пад рукой Ягайлы
Нясвіж / Іван Нясвіжскі

**Расійская Федэрацыя**

Ноўгарад-Вялікі?
Смаленск


Грунвальдская бітва



Старадуб
Ратно
**Рэспубліка Польшча**
Драгічын (Набугскі)
Мельнік
**Татары**, 2000–5000 вершнікаў/ хан Джэлал-эд-Дын

Тэўтонскі ордэн, хоць і моцна саслаб у выніку разгрому пад Грунвальдом, застаўся на карце Еўропы. Будзь Вітаўт «прыбалтам», ён, несумнеўна, пазбавіў бы «сваіх сваякоў» ад тэўтонскага тэрору. Тым больш, што гэта яму ўжо не складала працы. Але ён не паварушыў пальцам дзеля жмудзінаў. Тэўтонцы змянілі тон сваіх пасланняў да Вітаўта на ласкавы, але іх стаўленне да жмудзі засталося ранейшым. Адзін з летапісаў – Хроніка Быхаўца, напісаная лацінкай на старабеларускай мове, апавядае аб тым, як ужо пасля Грунвальда крыжакі «наехалі» на жамойтаў, якія звярнуліся затым да Вітаўта з просьбай узяць іх пад апеку і нікому больш не аддаваць:

*«Na druhoie leto Zomoyt namestnikow nemeckich pruskich pobili, ne chotiaczy boisz toho pod nemcy byty. Nemcy, prusowe y liflanty, stali z woyski na nich zbiraty na Polondze, chotiaczy ich opiat pod swoiu moc podbity. Y zomoyt sobrawszysia, y tam ze z hor toie woysko nemeckoie naholowu kamenjem pobili, y skoro, z hor tych pobiwszy nemcow, pryslali do Witolta: iestli by chotel im panom byty, sztoby wzo ich nikomu ne zastawial, a derzal ich sam, y panom w nich byl; Witolt ich za sia do sebe prynial».*

### Змены назваў

Ацэньваючы падзеі, якія адбываліся аж да сярэдзіны XV стагоддзя, не даводзіцца гаварыць аб нейкім істотным уплыве Маскоўскага княства на ВКЛ. Іх «вагавыя катэгорыі» былі проста непараўнальныя. ВКЛ пераўзыходзіла таксама і Польскае каралеўства. У разы. Пазней атрымалася так, што частка земляў ВКЛ апынулася ў маскоўскай дзяржаве, а частка ў польскай. Не варта ідэалізаваць узаемаадносіны ВКЛ і Польшчы. Былі яны няпростыя як да Грунвальда, так і пасля яго.

Па смерці Вітаўта (1430) у ВКЛ пачалася грамадзянская вайна. Вялікі князь Свідрыгайла спрабаваў аб'яднаць цэрквы на землях ВКЛ, але пры падтрымцы польскага караля Уладзіслава Ягайлавіча яго перамог князь Жыгімонт Кейстутавіч. Ён развязаў у краіне сапраўдны тэрор. Апазіцыйная віленская шляхта змушаная была шукаць сабе паратунак і знаходзіла яго пры двары дачкі Вітаўта – Соф`і, жонкі маскоўскага князя Васіля. У 1440 годзе Жыгімонт Кейстутавіч быў забіты змоўшчыкамі. Вялікім князем стаў Казімір Ягайлавіч, а калі ў 1444 годзе пад Варнай у бітве з туркамі загінуў польскі кароль Уладзіслаў Ягайлавіч, пад уладай Казіміра ўпершыню былі рэальна аб'яднаныя дзве дзяржавы – Вялікае Княства і Польскае каралеўства.

У 1453 годзе туркі захапілі Канстанцінопаль. Спыніў існаванне Другі Рым. Пляменніца загінулага візантыйскага імператара – Соф`я Палеалог, якая жыла пры двары папы рымскага Паўла II, у 1472 году была сасватана за маскоўскага князя Івана III. Разам з грэчаскай прынцэсай у Маскву прыехалі і былыя імператарскія саноўнікі. За кароткі гістарычны час Масква стала прытулкам другой хвалі палітэмігрантаў. Ім ужо было цесна ў другарадным горадзе, ім была патрэбна звычная ім імперыя. Пачалося масавае запазычанне чужых сімвалаў: ад візантыйскага двухгаловага арла да прымаўкі «Кракаў не адразу будаваўся», перарobленай на маскоўскі лад.

Фактычна пры папушчальніцтве караля Казіміра ў 1477 годзе маскоўскае войска захапіла Наўгародскае княства. Тэрыторыя Маскоўскага княства павялічылася ўдвая, а маскоўскія баяры сталі выказваць прэтэнзіі на ролю «аб`яднаўцаў зямель рускіх». Казімір заключыў з маскоўскім князем Іванам III «вечны мір». Як пішуць расійскія гісторыкі: *«...У 1492 годзе памёр Казімір IV. Масква пачала пераможную вайну супраць Літвы і па замірэнні 1503 года вярнула Русі 19 гарадоў, у тым ліку Чарнігаў, Пуціўль, Гомель, Бранск, Мцэнск і іншыя, 70 валасцяў, 22 гарадзішчы і 13 сёлаў...»*

Пачынаючы з 1492 года (за 499 гадоў да развалу СССР) Масковія практычна бесперапынна вяла захопніцкія войны, матывуючы іх «вяртаннем» ніколі ёй не належачых «рускіх» зямель на захадзе. У канцы XVIII стагоддзя, у выніку падзелаў, «вернутая» аказалася і тэрыторыя Польшчы. Не ад добрага жыцця, а каб выжыць і захавацца як нацыі, продкам беларусаў і ўкраінцаў прыйшлося адхрышчвацца ад назвы «Русь» і абіраць сабе новыя найменні. Нярэдка ў расійскіх крыніцах сустракаецца такі «тэзіс»: беларусы – гэта апалячаныя рускія, якія некалі адбіліся ад расейцаў. Хто ж іх «апалячыў», калі апошнія два стагоддзі тут гаспадарылі маскоўскія ўлады? Сілком запісвалі беларусаў «палякамі» не толькі ў часы Рэчы Паспалітай, але і ў Расійскай імперыі – пачынаючы з часоў Кацярыны II і аж да Сталіна. Такая логіка каланіяльнай палітыкі: беларусаў змушалі быць кім заўгодна, але толькі не самімі сабой. Што датычыць пытання аб тым, хто ад каго адбіўся (калі пастаноўка такога пытання дарэчная), то хутчэй расейцы адбіліся ад беларусаў і ўкраінцаў. Таму і мовы ў іх падобныя. Хай хто-небудзь паспрабуе давесці на фактах зваротнае.

### Ці была Белая Русь?

Іншым разам, падчас палемікі на гістарычных інтэрнэт-форумах, расейцы адважна ўступаюць у спрэчкі, шчыра лічачы тое, што напісана ў іхных падручніках, надзейнай апорай. Даводзіцца чуць заявы такога кшталту: «Ну дзе вы вычыталі згадкі аб беларусах у часы сярэднявечча?» У апошні час гісторыкі знаходзяць цікавыя дакументы, якія сведчаць аб тым, што некалі назва «Белая Русь» мела прывязку да ... Масковіі. Назва «Белая Русь» фактычна «зрабіла кола» па карце. Некалі так называлі Полацкую, Смаленскую і Наўгародскую зямлю. Полацак і Смаленск з часам сталі «Літвой», а «Белай Руссю», пасля захопу Ноўгарада Масквой, сталі называць і Масковію таксама. У маскоўскім Музеі горада ёсць вялікая карта 1611 года, якая азагалоўлена на латыні: «Масква – сталіца ўсяе Белай Русі». На карце 1680 года так і напісана: «Белая Русь Масковія». Напрыклад, калі ў тытуле Пятра I згадвалася «...усяе Белыя Русі...», гэта адносілася не да крыўскіх зямель у сучасным разуменні (яны былі ў іншай дзяржаве – Рэчы Паспалітай), а да яго ўласных – маскоўскіх. Калі зваць «беларусам» Пятра Першага, фармальна гэта будзе правільна, але ўяўляеце, якую гэта выклікае блытаніну! Таму і называць мову ВКЛ па сучаснай этна-геаграфічнай прывязцы – «старабеларускай» (гэты тэрмін з'явіўся на мяжы 19 і 20-га стагоддзяў). Заваяваным землям на захадзе Масковія давала сваю назву – Белая Русь. Пазней Масква рабіла акцэнт на больш універсальным для ўсходнеславянскіх зямель паняцці – «Русь». У XIX стагоддзі назва «Белая Русь» ужо была «прывязана» да сучаснай тэрыторыі Беларусі. Так атрымалася, што продкі расейцаў і беларусаў памяняліся сваімі назвамі.

### Кнігадрукаванне

Зразумела, мовы сучасных расейцаў і беларусаў роднасныя, ды і не мудрагеліста: Масковіяй яна запазычана ад «русінаў», як некалі звалі жыхароў ВКЛ, чытай: продкаў беларусаў і ўкраінцаў. І кнігадрукаванне запазычанае адтуль жа. Першы маскоўскі кнігадрукар – Іван Федаровіч (менавіта так ён сябе зваў: «Федаровіч») быў са старажытнага шляхецкага роду герба Шранява, услаўленага некалі пад Грунвальдом. Хутчэй за ўсё, гэты польскі герб дастаўся роду пасля Гарадзельскай вуніі 1413 года. Тады шляхта Польскага каралеўства і ВКЛ абмянялася гербамі. Праўда, да канца паходжанне ягонага роду невядомае. Дзеля справядлівасці варта сказаць, што гісторыкамі аспрэчваецца шляхецкае паходжанне Яна Федаровіча і законнасць выкарыстання ім герба. Магчыма, ён быў родам з Петкавічаў, што на мяжы сучаснай Мінскай і Брэсцкай абласцей. Літары, якімі Іван Федаровіч друкаваў свае кнігі, былі прывезены ім з Вільні. Зразумела, кнігі ён друкаваў на сваёй мове – «рускай». Пасля разгрому рэлігійнымі фанатыкамі маскоўскай друкарні ён вярнуўся ў Рэч Паспалітую, дзе працягваў друкаваць кнігі спачатку ў Заблудаве, а затым у Львове (Рускае ваяводства). Там ён побач з гербам Шранява стаў адлюстроўваць і герб Львова. У сярэдзіне XVII стагоддзя ў Маскве дзейнічалі дзве друкарні: адна патрыяршая, другая – Сімеона Полацкага, які друкаваў кнігі на той жа самай мове, «рускай». Істотныя адрозненні моваў сталі з'яўляцца толькі пасля рэформы Пятра I. У 1708 годзе ім быў зацверджаны «грамадзянскі шрыфт», замоўлены ў Галандыі ў вядомага майстра і асветніка, выхадца з Беларусі, Іллі Капіевіча.

### Паверым Пушкіну

Вядома, самы вялікі ўклад у развіццё рускай мовы ўнеслі расейскія пісьменнікі і паэты XIX стагоддзя. Безумоўна, сама мова была адшліфавана шмат у чым дзякуючы А.С.Пушкіну. Ён падзяляў імперскія погляды сваіх правіцеляў, але нам цікавы той факт, што ў яго час Літва без агаворак лічылася, як Расія і Польшча, славянскай дзяржавай. Вось як ён пісаў у вершы «Клеветникам России»:

*О чем шумите вы, народные витии?*
*Зачем анафемой грозите вы России?*
*Что возмутило вас? волнения Литвы?*
*Оставьте: это спор славян между собою,*
*Домашний, старый спор, уж взвешенный судьбою,*
*Вопрос, которого не разрешите вы.*

*Уже давно между собою*
*Враждуют эти племена;*
*Не раз клонилась под грозою*
*То их, то наша сторона.*
*Кто устоит в неравном споре:*
*Кичливый лях, иль верный росс?*
*Славянские ль ручьи сольются в русском море?*
*Оно ль иссякнет? вот вопрос...*

Пушкін быў паэтам, а не празорліўцам. Ён не мог уявіць, што пасля яго смерці паўтара стагоддзя царскія, а затым савецкія дэмагогі будуць даводзіць нашчадкам глупства аб неславянскім характары ВКЛ і антаганізме сярэдневяковай Літвы і Русі. Хоць «Русь» і «Расія» – гэта розныя паняцці, ставяцца да розных тэрыторый і розным дзяржаўным утварэнням, атрымалася так, што назва «Русь» манапалізавана Расіяй. Напрыклад, на картах 14–15 стагоддзяў Русь – гэта Львоў і Кіеў, Масква – гэта Масковія. Між імі нават няма агульнай мяжы. Іх падзяляюць сотні кіламетраў Літвы. Зараз жа ўкраінцам і беларусам даводзіцца зваць мовы сваіх продкаў адпаведна «стараўкраінскай» і «старабеларускай». Старая назва – «руская» – «прыватызавана» ўсходнім суседам.

### Мікалаеўская канцэпцыя

Адначасова з войнамі маскоўскія правіцелі стваралі ідэалагічную базу для апраўдання захопніцкай палітыкі. Груба скажалася гісторыя. Маладой дзяржаве – Расійскай імперыі – для яе «удревнения» была дададзена гісторыя Кіеўскай Русі. Укаранялася думка, што старажытная Русь была толькі адна – Кіеўская, і яе адзіная гістарычная пераемніца – Расійская імперыя. Аб тым, што не толькі Кіеў, але і большасць зямель на захад ад Валакаламска некалькі стагоддзяў былі ў складзе славянскай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, расійскія гісторыкі ўзгадваць не любяць. Але хлуслівая ідэалогія давала збоі.

Пасля падаўлення паўстання 1831 года за ідэалогію і гісторыю ўзяліся з падвоенай сілай. У 1839 годзе царом Мікалаем I была ліквідавана царкоўная вунія, а 18 ліпеня 1840 года Сенат зацвердзіў указ цара, паводле якога забаранялася ў афіцыйных дакументах ужываць словы «Беларусь» і «Літва»:

*«Правительствующий Сенат слушали предложение управляющего Министерством юстиции, что управляющий делами Комитета Министров, по поручению оного отношением от 26 минувшего июня, сообщил ему, что по случаю внесения по высочайшему предписанию проекта указа, в котором упоминались губернии Белорусские и Литовские под сими наименованиями, государь император, зачеркнув название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с поименованием губерний, каждой отдельно Витебскую, Могилевскую, Виленскую и Гродненскую; при чем последовало собственноручное высочайшее повеление: «Правила сего держаться впредь, никогда иначе не прописывая, как поименно губернии».*

Знаёма? Таго ж зараз дамагаецца У.Пуцін: падзяліць Беларусь на губерні і паасобку «прыняць» у склад Расійскай Федэрацыі.

Мікалай I выдатна разумеў, што «Літва» – гэта не проста геаграфічная назва.

Працяг на стар.10

# Чаму літва пісала «па-руску»

Працяг пачатак на стар. 7–9

Для беларусаў гэта быў сімвал надзеі на адраджэнне дзяржаўнасці. Памятаў ён і аб тым, што Напалеон, падыходзячы да межаў Расійскай імперыі абяцаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. У Вільні Напалеона сустракалі кветкамі, а 1 ліпеня 1812 года ён абвясціў аб адраджэнні ВКЛ, праўда, далейшыя яго крокі, зробленыя пад уплывам палякаў, якія настойвалі на падпарадкаванай ролі ВКЛ, усе перакрэслілі. Для таго, каб пазбавіць літвінаў-беларусаў гістарычнай перспектывы, Мікалай I не толькі забараніў само нагадванне аб Літве, але і выслаў у Сібір непакорлівую шляхту, канфіскаваў маёнткі. Але імкненне да свабоды аказалася мацней за забароны. Вырасла новае пакаленне ў 1863 годзе ізноў паўстала.





Лютыя ненавіснікі літвінскай мовы, гісторыі і культуры – Мікалай I Мураўёў-вешальнік

## Імперыя як пераемніца

Пасля падаўлення паўстання 1863 года стала ясна, што палітыка замоўчвання гістарычнага мінулага неэфектыўная. Таму замест сцірання ўсякіх згадак пра Літву стала праводзіцца іншая палітыка: укаранялася выдумка, што Літва – гэта маленькае княства, нашчадкамі жыхароў якога і з'яўляюцца жамойты. Усё астатняе – гэта Кіеўская Русь, а яе гістарычная пераемніца – Расійская імперыя. У такім выглядзе імперская ідэалогія праіснавала аж да развалу СССР. Фактычна ўсю гісторыю сярэдневяковай Літвы прывязвалі да адной з нацыянальных меншасцяў – нашчадкаў жамойцкіх плямёнаў, у якіх аж да сярэдзіны XIX стагоддзя нават не было сваёй назвы дзяржаўнага герба ВКЛ. Назва «Vytis» («Віцязь») для Пагоні прыдумаў Сімонас Даукантас у 1845 годзе. Першая вышэйшая вучэбная ўстанова для іх была створана расійскім царом у канцы XIX стагоддзя. Для гэтай мэты было перапрафіліравана расійская вучэльня ў Марыямпалі. У Віленскім універсітэце выкарыстоўваць літоўскую (у сучасным разуменні) мову пачалі толькі ў XX стагоддзі.

## Мураўёў

Асобнага згадвання варта роля, якую сыграў у гісторыі віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў, які атрымаў ад нашага народа мянушку «вешальнік». У свой час ён удзельнічаў у таемных дзекабрысцкіх арганізацыях. У 1826 годзе быў арыштаваны, але не падзяліў лёс сваіх таварышаў, здолеўшы апраўдацца. Мікалай I даў яму магчымасць «искупить свою вину», што ён і рабіў з адмысловай старраннасцю. У 1831 годзе прымаў актыўны ўдзел у падаўленні нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Беларусі. Ён жа ініцыяваў адмену дзеяння Статута ВКЛ у заходніх губернях Расійскай імперыі. У 1861 годзе, не пагадзіўшыся са скасаваннем прыгоннага права, сышоў у адстаўку, але ў красавіку 1863 года быў прызначаны віленскім генерал-губернатарам з надзвычайнымі паўнамоцтвамі. Падушыў паўстанне, ачоленае Каліноўскім. Праводзіў шматлікія рэформы, у тым ліку адукацыі, накіраваныя на знішчэнне нацыянальнай свядомасці ў заваяваных народаў. Яму належыць вядомая фраза аб тым, што руская школа зробіць больш, чым рускае войска. Беларусы пасля зачынення польскіх школаў не атрымалі магчымасць вучыцца на роднай мове. Пры Мураўёве і яго пераемніках аж да XX стагоддзя ў Расійскай імперыі не было надрукавана ніводнай кнігі на беларускай мове. Мураўёў вельмі рэзка выступаў супраць любых згадак назваў «беларусы», «украінцы». У чарнавіку даклада цару ў траўні 1864 года ён піша:

*«Бедственная идея о разъединении народностей в России, введении Малорос[сийского], Белорус[ского] и иных наречий уже глубоко проникла в обществ[енные] взгляды. Необходимо положить этому твердую преграду и вменить Мин. Народ. Просвещения в обязанность действовать в духе единства России...».*

Калі вакол былі толькі «рускія», узнікае пытанне: да каго ж тады звяртаўся на беларускай мове ў сваіх адозвах Каліноўскі? Да няіснага народа – беларусаў? Пасмяяліся б над «фантазёрам» і ўсяго! Але яго павесілі. І казакам Мураўёва-вешальніка прыйшлося нямала паваяваць з гэтым «неіснуючым» народам.

Пасля падаўлення паўстання Мураўёвым быў уведзены ў абарачэнне новы тэрмін – «асобы польскага паходжання». Крытэрам, па якому адносілі да «асобаў польскага паходжання», была не нацыянальнасць ці рэлігія, а непрыманне акупацыйных парадкаў і «недабранадзейнасць». Абшарнікам «польскага паходжання» быў усталяваны 10-працэнтны падатак на нерухомасць. Гэты крок пераследваў некалькі мэтаў: знішчыць матэрыяльную базу апазіцыі, дыскрэдытаваць яе чуткамі аб тым, што дзеля грошай людзі адмаўляюцца ад сваіх пераканнанняў, а таксама, каб расчысціць дарогу абшарнікам, якіх перасялялі сюды з Расіі.

Палякаў таксама «чысцілі» ад нацыянальных «перажыткаў». Іх радзіму перайменавалі ў «Прывіслёнскі край» і падзялілі на 10 губерняў. Жамойтам дазволілі прысвойваць гісторыю ВКЛ, але прымушалі пераходзіць на кірыліцу. Яны з задавальненнем «прыватызавалі» назву «Літва», але выкарыстоўваць кірыліцу не жадалі і друкавалі свае кнігі на лацінцы ў Кенігсбергу.

## Савецкая мураўёўшчына

Падчас рэвалюцыі 1917 года кантроль над былымі калоніямі Расійскай імперыі саслабеў і сталі з'яўляцца самастойныя дзяржавы: Польшча, Літоўская Рэспубліка, Беларуская Народная Рэспубліка. Бальшавікі на час змірыліся з існаваннем незалежных неславянскіх дзяржаваў: Фінляндыі, Латвіі, Літвы і Эстоніі. Але беларускія, украінскія і польскія землі яны працягвалі лічыць за сваю ўласнасць. Акрамя таго, тут, на заходнім напрамку, знаходзіліся астаткі ўдарных частак Заходняга фронту Расійскай арміі, якія сталіся зараз Чырвоным войскам. Палякам удалося адстаяць сваю незалежнасць. Беларусам і ўкраінцам – не. Але з-за ўтварэння БНР бальшавікам прыйшлося прызнаць існаванне беларусаў і пайсці на стварэнне хоць і вельмі абмежаванай, але ўсё ж аўтаноміі – БССР. Не будзь БНР, не было б БССР, а пазней і незалежнай дзяржавы – Рэспублікі Беларусь.

Увосень 1939 года, «...ідучы на сустрэчу векавым спадзевам літоўцаў», Сталін перадаў Вільню і Віленскі край у склад чужой дзяржавы – Літоўскай Рэспублікі. Літоўцаў (ужо сучасных) там пражывала меней за 3 адсоткі. Абсалютную большасць насельніцтва складалі беларусы, палякі і яўрэі. Іх думкамі і жаданнямі ніхто не пацікавіўся. Навошта Сталін пайшоў на такі крок? Сталін часта быў жорсткім і каварным, але наіўным і прастадушным – ніколі. Паводле дамоўленасці між СССР і Літоўскай Рэспублікай, на перададзеных тэрыторыях «часова» заставаліся савецкія вайсковыя базы. Таму, калі праз некалькі месяцаў Сталін аддаў загад «усталёўваць у Літве ўладу працоўных і сялян», савецкім танкам не прыйшлося штурмаваць памежныя ўмацаванні. Чырвонае войска ўжо было ўсярэдзіне дзяржавы. Так была ўтворана Літоўская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка са сталіцай у «Вільнюсе», а вайсковыя базы заставаліся там аж да развалу СССР.

Царскія, а затым савецкія ідэолагі добра разумелі, што гістарычная спадчына ВКЛ задужа вялікая, каб яе ігнараваць. Але і прысвоіць яе немагчыма – яна супярэчыць дэмагогіі аб «збіранні зямель рускіх Масквой». Таму адзіна магчымай была ідэалагічная палітыка, накіраваная на прывязку гісторыі ВКЛ да адной з нацыянальных меншасцяў. Народам прышчэплівалася думка, што яны «...пакутавалі ад цяжкага нацыянальнага прыгнёту літоўскіх феадалаў», і таму «ўкраінцы і беларусы цягнуліся да Масквы».

Апроч распаўсюджвання глупства аб «нацыянальным прыгнёце літоўскіх феадалаў», надзвычай важным для імперскай ідэалогіі было існаванне стэрэатыпу: Літва – маленькае прыбалтыйскае княства. Сучасная беларуская моладзь нярэдка задаецца пытаннем: «Чаму літоўцы змаглі выкарыстаць гістарычную спадчыну ВКЛ, а беларусы, нягледзячы на мноства аргументаў у сваю карысць – не»? Ды таму, што першым царскія, а потым савецкія ідэолагі дапамагалі ў гэтым, а другім паслядоўна і бязлітасна перашкаджалі. І сваю гісторыю царскія, а следам савецкія ідэолагі перапісвалі да непазнавальнасці. Бо па-іншаму немагчыма апраўдаць так званае «збіранне зямель». Што значыць «збіраць»? Яны што, валяліся і знікалі без гаспадара? Не. Княствы, ваяводствы і паветы да заходу ад Валакаламска – гэта суб'екты ВКЛ, чужой дзяржавы. А як мага «вяртаць» чужое? Без вялікай маны – ніяк. Вось і стварылі «гісторыю», паводле якой на беларускіх землях нібы быў вакуум, дзеля агульнай выгады запоўнены Масковіяй. А «тутэйшых» расейцы ці ледзь не «навучылі саджаць бульбу». Узгадкі аб тым, што гісторыя самастойнасці і дзяржаўнасці крывічоў як мінімум у два разы даўжэйшая за маскоўскую, а кнігадрукаванне было запазычана менавіта адтуль, успрымаецца расейцамі са здзіўленнем, а то і з агрэсіўнасцю.

## Высновы

Як жа атрымалася, што ў свядомасці сучаснага чалавека слова «Літва» асацыюецца з маленькай і зусім не славянскай дзяржавай, а гісторыя ўсходнеславянскага «трыкутніка»: Кіеў – Вільня – Масква падменена ідэалогіяй, створанай дзеля адной кропкі на карце – Масквы? І навошта было «збіраць» і «вяртаць» ўсходнеславянскія землі, якія ўжо былі сабраныя (найбольш добраахвотна) у ВКЛ, і славяне, якія называлі сябе тады «рускімі», займалі ў Вялікім Княстве Літоўскім дамінуючае становішча. ВКЛ ніколі не было пад татарскай няволяй, а ў XV стагоддзі вялікі князь ВКЛ Вітаўт сам навязваў Залатой Ардзе сваіх стаўленікаў. Маскве, каб уз'яднацца з астатнімі ўсходнімі славянамі, было досыць увайсці ў склад ВКЛ або ж падтрымліваць з ім саюз, як, напрыклад, Ноўгараду або Цверы. Тым не менш, Масква з упартасцю, годнай лепшага ўжывання, стагоддзе за стагоддзем вяла бесперапынныя войны дзеля захопу славянскіх земляў на захад ад сваіх межаў. Не будзь «збірання» і «вяртання» «рускіх» земляў, вялікая іх частка засталася б еўрапейскай дзяржавай – Вялікім Княствам Літоўскім.

Гавораць, што гісторыя паўтараецца. Магчыма, што калі-небудзь памяць аб ВКЛ стане гістарычнай асновай для аб'яднання ў асацыяцыю краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Нават усходнія і заходнія немцы розняцца між сабой. Мне здаецца, што канкурэнцыя між заходнімі і ўсходнімі еўрапейцамі непазбежная. Не ведаю, ці будуць блізкія нам праблемы палякаў, чэхаў і іншых народаў зніклай «сацсадружнасці», але інтарэсы былых рэспублік захаду СССР заўсёды будуць перапляттацца. Рана або позна паўстануць перадумовы для такога аб'яднання. Ці будзе Расея ў гэтым згуртаванні? Гледзячы што ў ёй пераадолее: агрэсіўны імперыялізм або ідэалогія дабрабыту. Ці зможа Мінск стаць усходнееўрапейскім Бруселем? Гэта залежыць ад многіх фактараў, але ў немалой ступені і ад таго, ці будзе Беларусь ляпіцца да завуголля Расейскай Федэрацыі, ці стане развітой, самастойнай дзяржавай.

Пяюць «Багародзіцу». Аддзелы барскіх канфедэратаў перад бітвай з расейцамі.



Наваградак – сэрца літвінскай дзяржавы ад Міндоўг да Гедыміна. З пашырэннем дзяржавы сталіцу перанеслі ў Вільню



# Школьныя лідэры

***Як стаць аўтарытэтнай і ўплывовай асобай у маладзёвым асяроддзі***

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сумесна з прадстаўнікамі Адукацыйнага цэнтра лідэраў і выхавацеляў імя Пэдра Арупэ з Польшчы ладзіла сустрэчы школьных лідэраў і ўдзельнікаў школьнага самакіравання. Тут моладзь вучылася вызначаць складаныя сітуацыі ў жыцці і шукаць выйсце з іх, вызначала якасці, якія неабходна мець, каб стаць аўтарытэтным лідэрам у маладзёвым асяроддзі.



### Кепскіх сітуацый не бывае

Складаныя сітуацыі ўзнікаюць амаль штодзень. Але часам выглядаюць яны складанымі і невырашальнымі толькі на першы погляд. І нярэдка такая сітуацыя можа стаць штуршком да дасягнення новай вяршыні – што ў рэчаіснасці азначае: у кожным выпадку трэба шукаць нешта станоўчае, ліха без дабра не бывае.

Вось гэтым і займаліся школьныя лідэры пасля знаёмства і падзелу на малыя групы. Адны групы прыдумвалі праблемную сітуацыю, а іх калегі з іншай групы павінны былі знайсці станоўчыя якасці гэтай сітуацыі. Трэба сказаць, што з заданнем усе групы справіліся выдатна.

Вось такая можна сказаць тыповая сітуацыя. Вучань спрачаецца з настаўнікам, ігнаруе яго заўвагі. Ці ёсць што станоўчае ў такой сітуацыі? Ёсць. Гэта:

- *вучань не баіцца выказвацца, мае свой пункт гледжання;*
- *прыцягваецца ўвага ўсіх вучняў – і матэрыял у такіх умовах засвойваецца лепш;*
- *настаўнік адстойвае сваю пазіцыю;*
- *настаўнік усё роўна атрымае зарплату.*

З любой праблемнай сітуацыі ёсць выйсце. Некалькі асноўных шляхоў было разгледжана.

1. Гумар. Варта разрадзіць сітуацыю, перавёўшы ў несур'ёзнае русла – і такім чынам пагасіць агеньчык канфлікту.

2. Адкласці вырашэнне праблемы на потым. Калі пасварыўся з сябрам, то лепш не выказваць адразу, што ты пра яго думаеш, а паспрабаваць астыць, прааналізаваць і пасля прымаць рашэнне.

3. Падзяліцца з блізкім чалавекам, які цябе выслухае, а можа што-небудзь і параіць. Непад'ёмны для аднаго цяжар магчыма несці ўдвух.

4. Калі трэба зрабіць выбар у простай справе, можна падкінуць манетку або выцягнуць латарэю. Але наўрад ці будзе дзяўчына падкідваць манетку пры выбары жаніха.

5. Часам найлепшым выйсцем будзе пошук прафесійнага спецыяліста-кансультанта.

І наогул, трэба памятаць, што беспраблемнага жыцця няма. Калі нічога не здараецца і нічога не хвалюе, то трэба задумацца: ці ты яшчэ жывы.

### Які ён – лідэр?

Быць лідэрам зусім не лёгкая справа. Заданнем для кожнай групы было вызначыць, якімі якасцямі павінен валодаць добры лідэр. А пасля выбраць шэсць самых галоўных і размясціць гэтыя якасці на пірамідзе ў залежнасці ад важнасці зверху ўніз. Абавязковая ўмова – кансэнсус, згода ўсёй групы.

А пасля прадставіць адну з якасцяў добрага лідэра ў выглядзе эмблемы, матэматычнай формулы, пантамімы, скласці верш і спець песню на вядомую мелодыю. І вось тут шырока раскрыліся разнабаковыя таленты школьных лідэраў.

Часу на выкананне задання было няшмат, працаваць прыходзілася ўсім і дружна. Кожная група працавала па-свойму: некаторыя адразу падзялілі ролі і кожны выконваў сваю частку задання, іншыя працавалі ўсе разам. Часам нечакана для сябе ўдзельнікі сустрэчаў даведаліся пра таленты і здольнасці як свае, так і сяброў.

Вось, прыкладам, як выглядаюць матэматычныя формулы:

**1. АДКАЗНАСЦЬ = f(СВАБОДА)**
**СВАБОДА > ∞**
**АДКАЗНАСЦЬ > ∞**
**2. МЭТА = const**
**3. СПРАВЯДЛІВАСЦЬ = ЧЭСНАСЦЬ + АДКАЗНАСЦЬ**

А словы пра адказнасць былі прыдуманы адной з каманд на мелодыю песні «Цуд на калядысь» з альбому «Сьвяты вечар». Усім песня прыйшлася даспадобы.

Усе прэзентацыі былі арыгінальныя і непаўторныя. І праходзілі пад апладысменты старых і новых сяброў.

Сустрэчы дазволілі школьным лідэрам падзяліцца сваім досведам у школьным самакіраванні, абмяняцца вопытам працы. Школьная Рада сярэдняй школы № 180 Мінска пазнаёміла са сваім друкаваным органам – штомесячнай школьнай газетай «Тутэйшыя».

### Гавораць удзельнікі сустрэчаў

**Павел Доўнар.** Я першы раз быў на падобнай сустрэчы і атрымаў найкаштоўнейшы вопыт як старшыня Школьнай Рады. Даведаўся, як трэба правільна супрацоўнічаць з вучнямі і настаўнікамі. Пазнаёміўся з вучнямі іншых школ, з цікавымі людзьмі, якія праводзілі гэта мерапрыемства. Такія сустрэчы патрэбны. З задавальненнем сустрэўся б яшчэ раз.

**Хрысціна Чарняўская.** На сустрэчы разглядаліся пытанні, без якіх даволі складана існаваць у сённяшнім грамадстве, бо ўменне быць лідэрам яшчэ нікому не зашкодзіла. І тое, што нам распавядалі аб лепшых і горшых баках лідэрства, безумоўна, дапаможа ў далейшым.

Прыемна, што можна было працаваць з любым удзельнікам і даведацца пра меркаванні кожнага. Таксама ўразіла і тое, што госці з Адукацыйнага цэнтра лідэраў і выхавацеляў імя Пэдра Арупэ маюць даволі вялікі вопыт працы ў замежжы, якім яны з задавальненнем з намі дзяліліся.

Атмасфера, якая панавала сярод удзельнікаў, была сяброўская. Кожны ўдзельнік быў індывідуальнасцю і ў той жа час адчуваў сябе часткай усяго, што адбывалася. Мы лёгка прыходзілі да адных і тых жа высноваў.

**Кацярына Краўчанка.** Мне спадабалася форма правядзення сустрэчы. Спачатку мы выконваем заданне ў выглядзе гульні, пасля падводзяцца вынікі, робіцца аналіз і дабаўляецца фактычны матэрыял. Найбольш карыснымі будуць для мяне прапанаваныя шляхі рашэння складаных сітуацый. Гэта спатрэбіцца не толькі лідэру, але любому чалавеку.

**Вольга Шуйская.** Я даведалася шмат цікавага і карыснага. І гэта інфармацыя абавязкова мне спатрэбіцца. Цяпер я ведаю, што канфлікты можна вырашаць рознымі спосабамі, і свае веды выкарыстаю не толькі ў сітуацыях у сваёй гімназіі.

**Настасся Цыганкова.** Сённяшняе мерапрыемства вельмі моцна дапамагло мне зразумець не толькі лідэра, але і ўсіх тых, хто стаіць каля яго. Я пазнаёмілася з прадстаўнікамі самакіравання з іншых навучальных устаноў, і, спадзяюся, гэта будзе наша не апошняе спатканне.

**Станіслаў Паўлавіцкі.** Я зразумеў – каб быць лідэрам, трэба быць адказным як за сябе, так і за сяброў.

**Аліна Алексенка.** Школьнае самакіраванне – гэта не толькі цікавы і карысны для школьнікаў вопыт, але і эфектыўны сродак, які дазваляе развівацца ўсёй школе. Часта менавіта дзеці з'яўляюцца аўтарамі арыгінальных і канструктыўных ідэй, але не заўсёды да іх меркаванняў прыслухоўваюцца дарослыя.

**Марына Уладзімірава.** Нам прапанавалі падзяліцца на групы і ў гэтых групах паспрабаваць прыдумаць некалькі станоўчых характарыстык да пэўнай праблемы ў школе. Здаецца, нічога асаблівага ў гэтым няма, але я раптам зразумела, што працаваць у групе не так ужо і лёгка – кожны цягне коўдру на сябе і спрабуе далікатна «задушыць» таварыша. Узнік маленькі, але канфлікт. Ужо потым нам расказалі, як сапраўдныя лідэры выходзяць з казытлівых сітуацый. Прычым нічога новага я не пачула, аднак зразумела, чаго мне не хапае – сістэмы! Мне не адкрывалі невядомыя ісціны, але сістэматызавалі тое, што ведае кожны чалавек. І асабіста для мяне гэта было вельмі карысна.

Увогуле, уражанне ад усяго гэтага мерапрыемства засталося радужнае і прыемнае. У некаторай ступені яно дапамагло мне зразумець, хто я і што я. І ўжо напрыканцы я была ўпэўнена: вось перавыхаваюся і падамся ў лідэры.

**Леанарда МУХІНА**




# Двухмоўныя маюць лепшы розум

Шчаслівы той, у каго дзве родныя мовы. Не толькі таму што можа гаварыць, весяліцца ці спрачацца на дзвюх мовах, – нават у старэчыя гады ён здольны на большае, чым той, хто ведае толькі адну мову. Гэта дазналіся вучоныя з універсітэта Йорна (Вялікабрытанія), якія нядаўна апублікавалі вынікі свайго даследавання ў навуковым часопісе Psychology and Aging.

Вучоныя даследавалі 104 чалавекі ва ўзросце ад 30 да 59 гадоў, а таксама 50 чалавек ва ўзросце ад 60 да 88 гадоў. У кожнай групе палова яе складу з дзяцінства былі двухмоўныя. Гэтым людзям, каб справіцца з комплекснымі заданнямі так званага тэста Сімона, патрабавалася значна менш часу, чым іхным аднагодкам, якія засвоілі ў дзяцінстве толькі адну мову. Двухмоўныя ўдзельнікі даследавання таксама лепш спраўляліся з ускладненымі заданнямі.

Вучоныя тлумачаць гэтыя здольнасці тым, што двухмоўным людзям пастаянна прыходзіцца ўлічваць розніцу паміж дзвюма мовамі, і таму яны могуць хутчэй сарціраваць важную інфармацыю і адкідваць другаснагчную.

Бацькі не павінны баяцца даць свайму дзіцяці магчымасць выхавацца двухмоўным, сцвярджае Кардула Ніч, вучоны з універсітэта Базеля. «Ні ў якім выпадку не перагружае дзіця. Тое, што ён у будучыні не будзе добра валодаць ні той, ні другой мовай, гэта не болей як памылка», – гаворыць Ніч.

Урокі ігры на фартэпіяна і на скрыпцы таксама трэніруюць тыя ўчасткі мозгу, якія адказваюць за запамінанне слоў. Даследаванне, праведзенае ва універсітэце Ганконга, паказала, што дзеці, якія вучацца іграць на музычных інструментах, запамінаюць больш слоў, чым тыя, хто не займаецца музыкай.

«Ігра на музычным інструменце стымулюе, у першую чаргу, развіццё левай скроневай долі галаўнога мозгу, якая кантралюе вербальныя навыкі», – тлумачыць кіраўнік даследчай групы Агнес Чан. Кожнаму варта павучыцца. Падобна на тое, што разумнейшыя за ўсіх акажуцца ў далейшым тыя 80-гадовыя людзі, якія ў дзяцінстве атрымалі ўрокі ігры на баяне і на некалькіх мовах.

**Die Welt**



Бэртольд БРЭХТ

# Аўгсбургскі мелавы круг

У часы Трыццацігадовай вайны швейцарскі пратэстант, імя якога было Цынглі, меў вялікую гарбарню і краму скураных вырабаў у вольным імперскім горадзе Аўгсбургу. Ён быў жанаты на мясцовай жанчыне і меў з ёю дзіця. Калі каталікі наступалі на горад, сябры раілі яму хутчэй уцякаць, але ён не мог рашыцца так вось раптам ад'язджаць. Мабыць, таму, што не хацеў кідаць сваю гарбарню.

Такім чынам, ён застаўся ў горадзе, які пачалі штурмаваць імперскія войскі. А калі ўвечары пачаліся рабункі, ён схаваўся ў каморы на двары, дзе звычайна захоўваў фарбы. Ягоная жонка павінна была разам з дзіцем перабрацца да сваякоў у прадмесце, але яна замарудзіла, збіраючы свае рэчы, вопратку, упрыгожанні і ложак, і раптам убачыла з акна другога паверху, як на двор ломіцца цэлая кодла імперскіх жаўнераў. Яна кінула ўсё і выбегла праз заднія дзверы.

Дзіця засталося ў доме. Яно ляжала ў прасторных сенцах у сваёй калысцы і гулялася з драўляным шарыкам, падвешаным на вяроўцы пад столлю.

У доме засталася толькі маладая служанка. Яна ўвіхалася на кухне, збіраючы медны посуд, калі пачула шум на вуліцы. Кінулася да акна і ўбачыла, як з другога паверху жаўнеры кідаюць прама на вуліцу нарабаваныя рэчы. Яна пабегла ў сенцы і хацела ўжо ўзяць дзіця з калыскі, калі пачула грукат цяжкіх удараў у дубовыя дзверы. У паніцы яна кінулася ўверх па лесвіцы. Сенцы напоўніліся п'янымі жаўнерамі, якія ламалі ўсё, што трапляла пад руку. Яны ведалі, што знаходзіліся ў доме пратэстанта. На шчасце, падчас вобыску і пагрому Ганну, служанку, не знайшлі. Калі кодла сышла, Ганна вылезла з шафы, дзе яна схавалася, і знайшла дзіця ў калысцы. Яно не пацярпела. Яна хуценька схапіла яго і выслізнула на двор. Настала ноч, але чырвоная паланіца ад суседняга дома, што гарэў, асвятляла двор. Яна жахнулася, убачыўшы знявечаны труп гаспадара. Жаўнеры выцягнулі яго з каморы і забілі.

Толькі цяпер дзяўчыне стала ясна, якая небяспека ёй пагражае, калі яе схопяць на вуліцы з дзіцем пратэстанта. З цяжкім сэрцам яна паклала яго назад у калыску, дала трошкі малака, палюляла, пакуль яно не заснула, і пайшла ў квартал, дзе жыла яе замужняя сястра. Уначы, каля дзесяці яна прабіралася разам з мужам сястры праз гармідар, наладжаны жаўнерамі, што святкавалі сваю перамогу, каб знайсці ў прадмесці фраў Цынглі, маці дзіцяці. Яны пастукалі ў дзверы высокага дома. Праз некаторы час дзверы прыадчыніліся. Маленькі стары чалавек, дзядзька фраў Цынглі, высунуў галаву. Ганна, задыхаючыся, паведаміла яму, што пан Цынглі загінуў, а дзіця засталося ў доме і не пацярпела. Стары холадна паглядзеў на яе рыбінымі вачыма і сказаў, што ягонай пляменніцы тутака няма, а сам ён не хоча звязвацца з пратэстанскім байструком. І зачыніў дзверы. Калі яны адыходзілі, швагер Ганны ўбачыў, як зварухнулася заслона ў адным з вокнаў. Ён быў перакананы, што фраў Цынглі была там. Яна, відавочна, не пасаромелася адмовіцца ад свайго дзіцяці.

Пэўны час Ганна і яе швагер ішлі моўчкі! Потым яна сказала яму, што хоча вярнуцца ў гарбарню і забраць дзіця. Швагер, спакойны, прыстойны чалавек, выслухаў яе са страхам і паспрабаваў адгаварыць ад гэтай небяспечнай задумкі. Што ёй да гэтых людзей? Яны ніколі не ставіліся да яе нармальна.

Ганна сцішылася і слухала яго, потым паабяцала не рабіць нічога неразумнага. Аднак яна хацела што б там ні было хутчэй зазірнуць у гарбарню, ці не трэба чаго дзіцяці. Яна вырашыла пайсці туды сама.

І дамаглася свайго. Пасярод разгромленай залі ў сваёй калысцы ляжала дзіця і спакойна спала. Ганна стомлена прысела побач і стала глядзець на яго. Яна не рашылася запаліць святло, але суседні дом усё яшчэ гарэў, і пры гэтым святле яна зусім добра магла бачыць дзіця. У яго на шыйцы была маленечкая родзінка.

Калі дзяўчына пэўны час, можа з гадзіну, глядзела, як дзіця дыхае і смокча свой маленькі кулачок, яна зразумела, што заседзелася надта доўга і таксама, што не можа сысці адсюль без дзіцяці. Яна няўклюдна выпрасталася, нетаропка захінула яго ў ільняны абрус, узяла яго на рукі і пакінула двор, трывожна азіраючыся, нібыта чалавек з нячыстым сумленнем, нібыта злодзей.

Пасля доўгіх размоваў з сястрой і шваграм яна праз два тыдні забрала дзіця на правінцыю, у вёску Гросайцінген, дзе жыў ейны старэйшы брат. Гаспадарка належала ягонай жонцы, яны толькі нядаўна пабраліся шлюбам. Было вырашана расказаць толькі брату, што гэта за дзіця, бо яны не ведалі, на што здольная маладая сялянка, як яна прыме такога небяспечнага госціка.

Апоўдні Ганна прыехала ў вёску. Ейны брат, яго жонка і прыслуга сядзелі за абедам. Яе прынялі някепска, але ёй хапіла аднаго позірку на новую швагерку, каб вырашыць прадставіць дзіця як сваё ўласнае. Толькі пасля таго, як яна распавяла, што ейны муж атрымаў у далёкай вёсцы месца ў млынара і што ён забярэ яе праз пару тыдняў, сялянка адтаяла, і ўсе пачалі захапляцца дзіцем.

Пасля абеду яна пайшла з братам у лес па дровы. Яны прыселі на пянькі, Ганна наліла яму чыстага віна. Яна заўважыла, што яму няёмка ў новай скуры. Ягонае становішча ў маёнтку не было яшчэ трывалым, і ён пахваліў Ганну за тое, што яна пры жонцы трымала рот на замку. Было ясна, што ён не верыў у асабліва велікадушныя адносіны сваёй жонкі да пратэстанцкага дзіцяці. І хацеў, каб яны і надалей прытрымліваліся гэтай падманнай версіі.



Аднак доўга так не магло працягвацца.

Ганна дапамагала ўбіраць ураджай і прыглядала за «сваім» дзіцем, бегаючы з поля ў дом, калі астатнія адпачывалі. Малы ачуняў і нават патаўсцеў. Усміхаўся, калі з'яўлялася Ганна і намагаўся падняць галоўку.

Але потым настала зіма, і швагерка пачала распытваць Ганну пра яе мужа.

Яна не была супраць, каб Ганна засталася ў маёнтку, з яе была карысць. Горш было, што суседзі здзіўляліся бацьку хлопчыка Ганны, бо той ні разу не аб'явіўся. Калі яны не здолеюць прадставіць бацьку дзіцяці, то пра іхны двор будуць балбатаць абы-што.

Аднойчы летняй раніцай селянін запрог каня і голасна крыкнуў Ганне, каб яна паехала з ім па цяля ў суседнюю вёску. Пад стукат колаў ён паведаміў ёй, што шукаў і знайшоў ёй мужа. Гэта быў нейкі смяротна хворы бабыль, які ледзь падняў змардаваную галаву з бруднай посцілкі, калі яны ўсталі пасярод ягонай нізкай хаты.

Ён быў згодны пабрацца з Ганнай шлюбам. У галаве ложка стаяла старая з жоўтым тварам, ягоная маці. Яна павінна была прыняць ад Ганны плату за паслугу.

Справу вырашылі на працягу дзесяці хвілін, і Ганна з братам маглі ехаць па свайго цяля. Вянчанне адбылося на прыканцы таго ж тыдня. Пакуль святар мармытаў чын вянчання, хворы ні разу не зірнуў сваімі шклянымі вачыма на Ганну. Брат не сумняваўся, што праз колькі дзён яны атрымаюць сведчанне аб смерці. Тады яны скажуць, што муж Ганны і бацька дзіцяці памёр недзе па дарозе ў вёсцы каля Аўгсбурга, і ніхто не будзе здзіўляцца, што ўдава застаецца ў доме брата.

Ганна вярталася задаволеная са свайго дзіўнага вяселля, дзе не было ні званоў, ні духавога аркестра, ні дзяўчын-сяброўак, ні гасцей. Яна падрыхтавала ў кладоўцы замест вясельнага пачастунку скібу хлеба з салам, а потым падышла з братам да скрыні, дзе ляжала дзіця, у якога цяпер было імя. Яна паправіла прасціну і ўсміхнулася брату.

Аднак сведчанне аб смерці давялося чакаць доўга.

Яго не атрымалі ні праз тыдзень, ні праз два. Ганна казала на двары, што яе муж ужо едзе да яе. Калі ў яе пыталіся, калі ён з'явіцца, тлумачыла, што глыбокі снег замарудзіў падарожжа. Але, калі прамінулі яшчэ тры тыдні, брат, сур'ёзна ўстрывожаны, паехаў у вёску каля Аўгсбургу.

Ён вярнуўся позна ўначы. Ганна яшчэ не клалася, яна пабегла да дзвярэй, пачуўшы, як загрукацелі колы на двары. Яна ўбачыла, як павольна брат расспрагае каня, і ейнае сэрца сціснулася. Ён прывёз кепскія весткі. Увайшоўшы ў тую хату, ён убачыў смяротніка за сталом. Той сядзеў у адной кашулі і еў папоўніцы. Нечакана выздаравеў.

Селянін не глядзеў у твар Ганне, калі расказваў пра гэта. Бабыль, яго звалі Отэрэр, і ягоная маці былі, здаецца, таксама ўражаны паваротам справы. Яны яшчэ не прынялі рашэння, што рабіць. Отэрэр зрабіў на яго някепскае ўражанне. Гаварыў мала, але як толькі ягоная маці паспрабавала лямантаваць, што ў яго на шыі цяпер нялюбая жанчына з чужым дзіцем, той адразу прымусіў яе замаўчаць. Ён усё еў сваю сырную поліўку, пакуль ішла размова. Працягваў есці, калі селянін адыходзіў.

У наступныя дні Ганна, натуральна, была вельмі заклапочаная. У перапынках паміж хатнімі справамі яна вучыла хлопчыка хадзіць. Калі ён адчапіўся ад калаўрота і патупаў да яе з выцягнутымі наперад ручкамі, яна ледзь стрымала хрыплы стогн і моцна прыціснула да сябе, злавіўшы яго рукамі.

Аднойчы яна спытала брата: А што ён за такі? Яна бачыла яго толькі на смяротным ложку і толькі ўвечары, пры святле слабой свечкі. Цяпер яна даведалася, што ейнаму спрацаванаму мужу недзе каля пяцідзесяці і што ён, здаецца, беззямельны.

Скора яна яго пабачыла. Адзін лахтыр паведаміў ёй з вялікай прэтэнзіяй на таямнічасць, што «пэўны знаёмы» ў такі і такі дзень, а такой і такой гадзіне, каля такой і такой вёскі, там дзе пачынаецца дарога на Ландсбэрг, хоча сустрэцца з ёю. Так і сустрэліся павенчаныя паміж іхнімі вёскамі, як старажытныя палкаводцы паміж сваімі шыхтамі, на адкрытай прасторы, дзе ўсё было засыпана снегам. Мужчына не спадабаўся Ганне.

У яго былі маленькія жоўтыя зубы. Ён глядзеў на яе зверху ўніз, хаця яна зусім знікла, захутаная ў тоўсты авечы кажух, а потым вымавіў нешта пра «таінства шлюбу». Яна толькі сказала яму, што мусіла б яшчэ падумаць. А яго папрасіла, каб ён праз нейкага гандляра або мясніка, які пойдзе праз Гросайцінген, паведаміў ейнай швагерцы, што скора з'явіцца, але захварэў па дарозе.

Отэрэр кіўнуў у сваёй дзіўнай манеры. Ён быў на цэлую галаву вышэй за яе і ўвесь час, пакуль яны размаўлялі, глядзеў збоку на яе шыю, што яе раздражняла.

Аднак паведамлення так і не было, і Ганна пачала меркаваць. каб проста сысці з дзіцем з двара і накіравацца на поўдзень, можа, у бок Кэмптэна або Зонтгофэна, ды знайсці там месца. Толькі неспакойныя дарогі, пра што шмат казалі тады ўсе, ды бясконцая зіма ўтрымалі яе ад гэтага.

Але цяпер на двары станавілася ўсё цяжэй. Швагерка за абедзенным сталом пры ўсёй прыслузе падозрана пыталася ў яе пра мужа. Аднойчы яна нават, гледзячы на дзіця з фальшывым спачуваннем, сказала ўголас: «Бедны падкідыш». Тады Ганна вырашыла сысці, але дзіця раптам захварэла.

Яно ляжала з распаленай галоўкай і смутнымі вачыма ў сваёй калысцы, а Ганна сядзела над ім цэлымі начамі ў страху і спадзяванні. Калі яно пачало папраўляцца і зноў заўсміхалася, аднойчы пасля абеду нехта пастукаў у дзверы. Увайшоў Отэрэр.

Акрамя Ганны і дзіцяці, у пакоі нікога не было, і ёй не прыйшлося прыкідвацца. Ды ў яе ад страху гэта і не атрымалася б. Яны нейкі час стаялі адзін перад адным моўчкі, а потым Отэрэр сказаў, што сам абдумаў справу і прыйшоў, каб забраць яе. Ён зноў згадаў пра таінства шлюбу.

Ганна раззлавалася. Цвёрдым, хаця і прыцішаным голасам яна сказала мужчыне, што не збіраецца жыць з ім. Што пайшла на гэты шлюб толькі з-за дзіцяці і не хоча ад яго нічога, акрамя прозвішча, якое ён даў ёй і дзіцяці.

Калі яна казала пра дзіця, Отэрэр паглядзеў у бок калыскі, дзе тое ляжала і агукала, але не падышоў да яго. Гэта яшчэ больш настроіла Ганну супраць яго.

Ён прамармытаў яшчэ нешта. Яна, маўляў, няхай яшчэ раз усё абдумае. У яго, маўляў, ёсць дзе сесці ды няма чаго з'есці. Але маці можа спаць на кухні. Тут увайшла гаспадыня, цікаўна павіталася з ім і запрасіла на абед. Брата Ганны ён павітаў, ужо седзячы за сталом, ледзь кіўнуўшы, ці то прыкідваючыся, што не ведае яго, ці то не выдаючы, што ведае. На пытанні сялянкі ён адказваў немнагаслоўна, не падымаючы вачэй ад талеркі. Маўляў, знайшоў месца ў Мэрынгу, куды Ганна можа пераехаць да яго. Аднак ён не згадаў, што гэта трэба зрабіць цяпер. Пасля абеду ён неяк пазбегнуў кампаніі селяніна і пачаў секчы за домам дровы, пра што ніхто яго не прасіў. Пасля вячэры, за якой ён прасядзеў без слова, сялянка занесла ў пакой Ганны тапчан, каб ён мог там пераначаваць. Але ён раптам няўклюдна ўстаў і прамармытаў, што мусіць ад'ехаць увечары. Перад ад'ездам ён пустымі вачыма зірнуў на калыску з дзіцем, аднак не сказаў нічога і не дакрануўся да яго.

Працяг будзе

**Пераклаў з нямецкай Валеры БУЙВАЛ**

Bertold Brecht. Kalendergeschichten. Leipzig, 1979.

 



# «Як еўрапеец еўрапейцу»

## *Інтэрв'ю італьянскага пісьменніка Умберта Эка газеце «La Cronica»*

**– Адзін з піянераў адзінай Еўропы Жан Манэ сказаў аб стварэнні агульнаеўрапейскай структуры наступныя словы: «Калі б мне давялося пачынаць наноў, я пачаў бы з культуры». Вы таксама лічыце, што Еўропа пачалася не з таго канца?**



– Не, паколькі я перакананы ў існаванні адзінай для ўсёй Еўропы культурнай тоеснасці. Знаходзячыся ў Злучаных Штатах ці Аўстраліі на якім-небудзь прыёме і сустрэўшы сярод запрошаных яшчэ аднаго еўрапейца, мне нашмат прасцей размаўляць з ім, нават калі гэта, да прыкладу, швед, гэта значыць чалавек, які вельмі розніцца ад італьянцаў. Між намі будзе значна болей агульнага, чым паміж кожным з нас паасобку і амерыканцам ці аўстралійцам. Мы, еўрапейцы, можам размаўляць адзін з адным пра гісторыю, пра нашы карані. Іншымі словамі, культурнае адзінства Еўропы існуе, неабходна толькі дапамагчы еўрапейцам усвядоміць гэта.

**– На якой мове пачне сумоўіцца заўтрашняя Еўропа? Такой мовай непазбежна акажацца англійская?**

– Любому рэгіёну планеты заўсёды неабходна агульная для ўсіх мова зносінаў. Менавіта з такой мэтай афрыканскія народы прыдумалі суахілі, якую разумеюць на большай частцы гэтага кантынента. У мінулым такой мова для нас была латынь. Пазней, на працягу стагоддзяў – французская. Сёння мовай зносінаў стала англійская. І ніякія зямныя сілы не ў стане навязаць тую ці іншую нацыянальную мову ці мову міжнацыянальных зносінаў. Нейкім чынам мова ўяўляе сабой сілу біялагічную. Але незалежна ад гэтага і ўлічваючы некаторыя гістарычныя і граматычныя асаблівасці англійскай мовы, цікавасць да яе можна растлумачыць тым, што авалодаць англійскай значна прасцей, чым французскай ці італьянскай. На англійскай можна выказваць такімі фразамі, як «Мая – Тарзан, твая – Чыта», і вас зразумеюць. Англамоўныя людзі згодныя на ўсё. Магчыма, праз паўстагоддзя настане чарга арабскай ці кітайскай! Але яшчэ раз паўтару тое, аб чым ужо пісаў у сваёй кнізе аб пошуках мовы: немагчыма навязаць тую ці іншую мову. Можна толькі стаць паліглотам.

**– Ці існуе небяспека культурнага растварэння ў выпадку яшчэ большага пашырэння Еўропы? На чым варта спыніцца? На Турцыі?**

– Гэта праблема палітычная, і мне не хацелася б паглыбляцца ў яе. Як бы там ні было, мне здаецца, што краінам-заснавальніцам адзінай Еўропы – Італіі, Германіі, Францыі ды іншым – варта раней папрацаваць над адносінамі паміж сабой, а ўжо потым адчыняць свае межы іншым. Відавочна, што існуе вялізная розніца паміж турэцкай і польскай культурамі. І агульных каранёў, аб якіх я ўжо казаў, тут не існуе; інакш мы будзем займацца пошукам каранёў агульных для ўсяго чалавецтва. А таму, як мне падаецца, кандыдатура Турцыі можа стварыць немалую праблему.

**– У часе іракскай вайны некаторыя амерыканскія кіраўнікі гаварылі аб «старой Еўропе». Як па-вашаму, існуе Еўропа «старая» і Еўропа «маладая»?**

– Зразумела, Еўропа – старая. Але ў гэтым вялікая перавага. У сваім узросце я атрымоўваю асалоду ад набытага за жыццё жыццёвага вопыту і ведаю непараўнальна болей за любога з маіх студэнтаў. Старасць дае вам разважлівасць. Але пры гэтым, на жаль, нясе праблемы з сасудамі і суставамі. Напрыклад, усе мы пакутуем ад маруднасці Еўропы ў плане навуковых адкрыццяў, у той час як у Злучаных Штатах у гэтай ды і шмат якіх іншых сферах усё развіваецца значна хутчэй. А таму варта прымаць самога сябе такім, які ты ёсць, і працаваць з тым, што маеш.

**– Папулізм уяўляе сабой пагрозу для Еўропы?**

– Так, абсалютна верна. І я жыву ў краіне, якой кіруе папуліст. Папулізм – гэта сентыментальны заклік, накіраваны да нейкага цьмянага расплывістага аб'екту, які ў сапраўднасці не існуе, але які мы мянуем «народам». І які любымі сродкамі намагаюцца прыцягнуць да сябе.

**– Гэта заразная хвароба?**

– Безумоўна, заразная. У Францыі можна прывесці мноства прыкладаў, аж да нядаўняга з Ле Пэнам. У нас у Італіі існуе нейкая форма расісцкага папулізму – «Паўночная Ліга», якая па-ранейшаму захоўвае сваю сілу. Мас-медыя папулізм Берлусконі прыйшоў на змену папулізму, які грымацеў у барабаны на вясковых плошчах, і гэта вельмі сучасны, вельмі развіты папулізм, які кантралюе тэлевізійныя каналы і сродкі масавай інфармацыі.

**– Гэта тэлебачанне нараджае папулізм?**

– Не, тэлебачанне толькі мадэрнізуе яго. Мусаліні выступаў з балкона якога-небудзь палаца ў Рыме ці Венецыі перад сотняй тысяч чалавек, якіх пагрозамі зганялі туды яго слухаць. Цяпер ён змог бы сабраць 40 мільёнаў тэлегледачоў. І гэтыя мільёны нават не трэба было б прымушаць глядзець тэлевізар. А таму тэлебачанне толькі мадэрнізуе і пашырае такі феномен, як папулізм. І тут варта ўсё ж падкрэсліць, што гэта не Берлусконі вінаваты ў тым, што склалася падобная сітуацыя, а тыя, хто галасуе за яго!

**«La Cronica»**

# Узор для махляроў

Уладальнік вядомай нью-йоркскай галерэі Exclusive Art Элай Сахай і кіраўніца гэтай галерэі Хашы Санджабі на працягу 12 гадоў падраблялі карціны Марка Шагала, Поля Гагена, Агюста Рэнуара ды іншых сусветна вядомых мастакоў. Расследаванне тры гады запар вяло ФБР. Калі пракуратура здолее давесці абвінавачванні, арт-дылерам пагражае 20 гадоў турмы і штраф у 2 мільёны даляраў.

Грандыёзны скандал пачаўся вясной 2000 года, калі аўтарытэтныя аўкцыённыя дамы «Сотбі» і «Крысці» апублікавалі свае вясеннія каталогі выстаўляемых на продаж твораў сучаснага мастацтва. Нечакана аказалася, што абодва аўкцыёны прапануюць пакупнікам адну і тую ж карціну – «Вазу з кветкамі» Поля Гагена.



**На рынку падробак вялікім попытам карыстаецца Айвазоўскі**

Кожны дом быў упэўнены, што выстаўляе на продаж арыгінал, бо ўсе дакументы ў прадаўцоў карцін былі бездакорныя. Абодва палотны адвезлі ў Парыж на экспертызу да лепшага знаўцы творчасці Гагена Сільвіі Крусар. Яна параўнала палотны і адзначыла, што карціна, якую выстаўляе на аўкцыён дом «Крысці», – падробка. Скандалам зацікавілася паліцыя Вялікабрытаніі і высветліла: падробку набылі ў галерэі Exclusive Art. Да расследавання падключыліся агенты ФБР, якія пачалі слежку за Сахаем і праверылі ўсе яго здзелкі, у якіх фігуравалі карціны вядомых майстроў. Пасля шматгадовай следчай працы высветлілася, што ўсе падробкі імпрэсіяністаў і постімпрэсіяністаў, аб якіх паведамлялі калекцыянеры ў розных краінах, так ці інакш звязаны з галерэяй Элая Сахая.

Пракуратура, якая рыхтавала абвінавачванне, устанавіла, што таленавіты махляр скарыстоўваў не надта складаную схему. На аўтарытэтным аўкцыёне ён набываў арыгінал вядомай карціны. Прычым выбіраў не шэдэўры, а сярэдняя работы, якія цікавяць не надта багатых калекцыянераў. Потым ён рабіў з карціны некалькі копіяў высокага класу, і прадаваў іх у розных краінах, найперш у краінах Азіі. Пасля гэтага арыгінал карціны прадаваў на аўкцыёне. Напрыклад, у 1992 годзе Сахай набыў на публічным аўкцыёне карціну Марка Шагала «Бэзавы абрус» за 312 тысяч даляраў. Зрабіўшы копію і падрабіўшы сертыфікат адпаведнасці, ён прадаў падробку аднаму з тайкійскіх галерыстаў за 514 тысяч даляраў. Праз некалькі год Сахай прадаў арыгінал карціны на публічным аўкцыёне.

Падробкі Шагала Сахай збываў на Тайвані і ў Польшчы, а падробкі Клода Манэ добра ішлі ў Нью-Йорку і Парыжы. Усяго, па дадзеных следства, ён зарабіў на сваіх падробках 7,38 мільёна даляраў.

Можна толькі пашкадаваць, што такі таленавіты мастак, здольны зрабіць падробку, якую могуць адрозніць ад арыгінала толькі некалькі спецыялістаў у свеце, можа патраціць на дзесяцігоддзі за краты. У рэшце рэшт, многія людзі перажылі шчаслівыя хвіліны, калі аздобілі свае прыватныя калекцыі карцінамі яго вытворчасці. Але наўрад ці суровы закон гэта ўлічыць.

*inauka.ru*

# *Гвалтаўнікі ў блакітных касках*

Нядаўна на Захадзе выйшла кніга «Тэрміновы сэкс і іншыя надзвычайныя меры: Праўдзівыя гісторыі з Пекла на Зямлі», дзе апісваюцца злачынствы «байцоў» розных міратворчых падраздзяленняў ААН. Аўтары кнігі – былыя службоўцы пры місіях «блакітных касак», якія прапрацавалі па дзесяць гадоў у розных краінах свету.

Былыя аанаўцы апісваюць жахлівыя выхадкі міратворцаў (прызначаных абараняць няшчасных), якія магчыма параўнаць толькі з паводзінамі акупантаў у заваяванай краіне. Гвалтаванні, узброены разбой, рэкет, наркагандаль і гандаль жанчынамі – і ўсё гэта на фоне п'янага разгулу.

Аўтары адзначаюць, што для большасці краінаў «трэцяга свету» ўдзел іх прадстаўнікоў у міратворчых акцыях з'яўляецца выгадным бізнесам – за «гарматнае мяса» ў блакітных касках плацяць немалыя грошы.

Апроч таго, ёсць магчымасць пазбавіцца ад праблемачных сугрмадзянаў. Напрыклад, Балгарыя накіравала для камплектацыі падраздзялення аанаўскіх міратворцаў у Камбоджу...



**Так выглядаюць сапраўдныя міратворцы**

групу зняволеных, якія не адбылі да канца свой турэмны тэрмін. «Гэта быў батальён крымінальных лунацікаў. Пастаянна п'яныя, яны забаўляліся групавымі гвалтаваннямі мясцовых жанчын і разбівалі ўшчэнт свае аўтамабілі», – пішуць аўтары. Балгарскі ўрад паспрабаваў абвергнуць факты, выкладзеныя ў кнізе. Але гэтыя дадзеныя пацвердзілі як крыніцы ў ААН, гэтак і рэпарцёры, якія былі ў Камбоджы і чые матэрыялы аб злачынствах «блакітных касак» у свой час не былі апублікаваныя з-за ціску кіраўніцтва міратворчых місіяў.

Кантынгент жа ААН у Конга практычна стварыў там сетку публічных дамоў, дзе «міратворцы» забаўляліся з 13–18-гадовымі дзяўчатамі з лагераў бежанцаў за... харчаванне. Шмат дзяўчынак на пачатку былі згвалчаны, зацяжарылі і нарадзілі. Не маючы магчымасці пасля гэтага знайсці сабе мужа, каб пракарміцца і гадаваць сваіх дзяцей, яны ператвараліся ў прастытутак. А з Кеніі жанчын проста вывозілі на продаж за мяжу...

Апроч таго, аўтары скандальнага выдання паведалі, што «блакітныя каскі», падобна рэкецірам, вымагалі ў мясцовых работнікаў місіяў ААН 15 адсоткаў іх зарплаты, часта пагражаючы зброяй. Адна з прычын гэтага тое, што ААН недаплаціла краінам, якія пасылалі сваё «міратворчае мяса» ў розныя гарчыя пункты свету, амаль паўмільярды даляраў (доўг Пакістану - 53 мільёны, Бангладэш – 48, Індыі – 32, Ірдданіі – 29 мільёнаў і г. д.). Тут да месца назваць асноўных пастаўшчыкоў кадраў для «блакітных касак»: Пакістан – 7680 чалавек, Бангладэш – 6360, Нігерыя – 3400, Індыя – 2930, Гана – 2790, Непал – 2290, Уругвай – 1830, Кенія – 1826, Эфіопія – 1820, Іярданія – 1800, Партугалія – 558, ЗША – 562, Вялікабрытанія – 550, Францыя – 509, Ірландыя – 485 чалавек.

Публікацыя гэтай кнігі можа нанесці моцны ўдар па планах генеральнага сакратара ААН Кофі Анана, які імкнецца ўзмацніць уплыў ААН у свеце шляхам павелічэння колькасці «блакітных касак» і пашырэння маштабаў, аперацыяў, якія яны праводзяць. У прыватнасці, планавалася давесці колькасць міратворцаў да 70 тысяч (у 2002 годзе іх было крыху болей за 40 тысяч).

Аўтары кнігі чамусьці пазбягалі згадак пра падзеі ў Косаве і на Блізкім Усходзе. Тайнае супрацоўніцтва прадстаўнікоў KFOR з албанскімі баевікамі, якія займаюцца наркабізнесам, садзейнічанне салдат UNIFIL «Хізбале» ў выкрадані ізраільскіх вайскоўцаў, гандаль жанчынамі ў Косаве і арганізацыя «блакітнымі каскамі» наркапатокаў з ліванскай даліны Бека чамусьці аказаліся менш прыкметнымі для аўтараў, чым рэкет у Руандзе. Не ўзгадваюцца і зверствы бельгійскіх «міратворцаў» у Самалі, якія палілі мясцовых жыхароў на кастрах за крадзеж прадуктаў. Магчыма, аўтары баяцца закранаць развітыя краіны, публікуючы ашаламляльныя звесткі пра іхных пасланцоў «міру».

**Аляксандр КОГАН**

*Росбалт.ru*

 

# Самі здолелі

**_Англійскія журналісты сцвярджаюць, што «восьмы цуд свету» быў знішчаны ў Кенігсбергу салдатамі Савецкай Арміі_**

«Нерасказаная гісторыя найвялікшага падману XX стагоддзя» – такі падзагаловак мае кніга Кэтрын Скот-Кларк і Адрыяна Леві «Бурштынавы пакой». Наўмысным падманам англійскія журналісты называюць міф аб тым, што Бурштынавы пакой, скрадзены немцамі ў 1941 годзе з Кацярынінскага палаца ў Пушкіне і перавезены ў Кенігсберг, быў імі потым таемна перахаваны ці знішчаны. Англічане знайшлі ў расійскім архіве доказы таго, што скрыні з панелямі Бурштынавага пакоя зніклі ў Кенігсбергскім замку пасля з'яўлення там Савецкай Арміі. Пажар, які прывёў да іх гібелі ў красавіку 1945 года, на думку аўтараў кнігі, быў выкліканы «катастрафічнай і невуцкай памылкай, оргіяй ці помстай недысцыплінаваных савецкіх салдат».

Калі летам 1941 года ўзнікла небяспека захопу Пушкіна нямецкімі войскамі, захавальнік Бурштынавага пакоя Анатоль Кучумаў заявіў, што панелі з-за старасці не падлягаюць эвакуацыі і прапанаваў замаскаваць іх са спадзяваннем, што немцам яны на вочы не патрапяць. Сцены Бурштынавага пакоя былі абкладзены ватай і марляй, а зверху абклеяны шпалерамі. Але калі 17 верасня немцы захапілі Пушкін, ім хапіла лічаных гадзін, каб знайсці Бурштынавы пакой, разманціраваць панелі, пакласці іх у спецыяльныя скрыні і адправіць у Кенігсберг – у тамтэйшы музей. Існуюць дакументы, якія пацвярджаюць, што скрыні з панелямі Бурштынавага пакоя прыбылі ў Кенігсберг, але потым іх сляды губляюцца.

Кэтрын Скот-Кларк і Адрыян Леві тры гады працавалі ў архівах, вывучылі тысячы дакументаў, апыталі дзесяткі экспертаў і сведкаў.

У прыватнасці, аўтары кнігі пішуць, што ў сваіх справаздачах Маскве Кучумаў ігнараваў сведчанні жыхароў Кенігсберга. Не звярнуў ён увагі і на добра вядомае яму заключэнне пра лёс Бурштынавага пакоя, зробленае ў траўні 1945 года супрацоўнікам Гістарычнага музея ў Маскве прафесарам Брусавым, які наведаў Кенігсбергскі замак за дзевяць месяцаў да Кучумава. У ягоным архіве захаваўся дзённік Брусава, яго рапарты ў Маскву.



Журналісты пішуць у сваёй кнізе: «5 чэрвеня (1945) Брусаў прабраўся ў Рыцарскую залю, дзе ўбачыў сапраўднае пекла... Яму і яго камандзе давялося лезці на карачках скрозь тоўшчу попелу... Увечары таго ж дня Брусаў запісаў: «знойдзены бронзавыя накладкі ад дзвярэй у Царскім Сяле... кавалкі карнізаў, якія маглі належаць Бурштынаваму пакою... жалезныя планкі і балты, з дапамогай якіх часткі Бурштынавага пакоя мацаваліся да скрыняў... Мы мусім спыніць пошукі Бурштынавага пакоя». І далей: «Прафесар Аляксандр Брусаў запісаў у дзённіку ў чэрвені 1945-га, што многія з патаемных месцаў, абраных дырэктарам музея Кенігсбергскага замка Альфрэдам Рохдэ, былі затоплены, спалены і спустошаны ў выніку актаў вандалізму пасля здачы замка Чырвонай Арміі. Нам вядома, што савецкія ўлады былі азнаёмлены з фактамі і Брусаў паведаміў ім, што, разам з іншымі скарбамі, Бурштынавы пакой быў знішчаны паміж 9 і 12 красавіка 1945 года».

Сярод знойдзеных аўтарамі кнігі дакументаў – сшытак, названы Кучумавым так: «Сабраныя мной паказанні жыхароў Калінінграда. 1946 г. Сапраўдныя дакументы на нямецкай мове». Першымі ў сшытку былі паказанні Паўля Файерабенда – дырэктара рэстарана Blutgericht, які размяшчаўся ў скляпеннях пад Рыцарскай заляй. Рэстаратар паведаў: «На пачатку красавіка 1945 года запакаваны Бурштынавы пакой знаходзіўся ў Рыцарскай залі. Праз некалькі дзён пачаўся штурм горада. 10 красавіка ў 12.30, калі я пакінуў замак, мой рэстаран быў заняты артылерыйскім падраздзяленнем Чырвонай Арміі. Калі я вярнуўся з Элбінга, дзе я быў гаспіталізаваны, то даведаўся ад Альфрэда Рохдэ, што Рыцарская заля і склеп пад ім былі спалены».

**Яфім Барбан**
**«Московские новости»**

## З першых рук

Карэспандэнт «МН» звярнуўся да аднаго з аўтараў «Бурштынавага пакоя», Адрыяна Леві, з просьбай пракаментаваць сенсацыйныя сцверджанні аб знішчэнні (магчыма, ненаўмысным) Бурштынавага пакоя.

**– Ці лічыце вы, што Кучумаў ведаў праўду і свядома яе ўтаіў?**

– Думаю, што так яно і было. Я захапляюся працай, якую правёў Кучумаў, аднак, чытаючы яго паперы, зразумеў, што ён ведаў праўду і свядома яе не раскрываў. Гэта ён прапанаваў савецкім уладам ілжывую версію гібелі Бурштынавага пакоя, і яна была прынятая. У ягоных паперах захаваліся дакументы расследавання, якое правялі яго калегі праз тры тыдні пасля заканчэння вайны. У іх прыведзены сведчанні людзей, якія бачылі ў Кенігсбергскім замку запакаваныя ў скрыні фрагменты Бурштынавага пакоя і сцвярджалі, што пажар у замку пачаўся пасля таго, як савецкія войскі захапілі яго.

**– Чаму кіраўніцтва задаволіла гэтая версія?**

– Справа ў тым, што ў лютым і сакавіку 1946 года Савецкі Саюз быў дакладчыкам на Нюрнбергскім працэсе і прыводзіў факты крадзяжу немцамі сваіх культурных каштоўнасцяў. Тады ж заходнія саюзнікі аказвалі моцны ціск на Сталіна дзеля таго, каб ён расследаваў дзеянні савецкіх войскаў у Германіі. У прыватнасці, трафейных каманд, якія абвінавачваліся разведкай саюзнікаў у тым, што пераправілі ў Савецкі Саюз 2,6 мільёна твораў мастацтва. У той час рускія гэта адмаўлялі. СССР не мог дазволіць сабе прызнаць віну ў знішчэнні аднаго з буйнейшых сваіх дзяржаўных скарбаў. І тады Кучумаў прапанаваў зручную версію знікнення Бурштынавага пакоя. Трэба сказаць, што ў Кучумава былі вельмі шчыльныя сувязі з МГБ. «Дарагі Анатоль Міхайлавіч...» – так пачыналіся гэтыя пісьмы, што гаворыць аб даволі шчыльных і нефармальных сувязях былога куратара Бурштынавага пакоя з органамі. А чым можна растлумачыць прысуджэнне Кучумаву Ленінскай прэміі ў 1986 годзе? За якія заслугі?

**– Кучумаў памёр у 1993 годзе. Чаму ж ён не адкрыў праўды ўладам новай Расіі?**

– У асабістай справе Кучумава мы знайшлі запыты Калінінградскай археалагічнай экспедыцыі, якая займалася пошукамі Бурштынавага пакоя, з просьбамі паведаць сапраўдныя вынікі яго расследавання. Яго цяжка назваць узорным захавальнікам Бурштынавага пакоя. Гэта ён вырашыў у 1941-м, што Бурштынавы пакой не трэба эвакуіраваць. Напэўна ён баяўся пакарання за халатнасць. Вось чаму старанна падтрымліваў версію, што Бурштынавы пакой нібыта не загінуў.

**– А як вы тлумачыце шматлікія сцвярджэнні, што Бурштынавы пакой ёсць надзея адшукаць?**

– Палітычнымі прычынамі. Бо паміж Германіяй і Расіяй вядуцца перамовы аб узаемнай рэстытуцыі, аб вяртанні каштоўнасцяў, павыкраданых у Германіі. І калі такія рэчы адшукваюцца ў Расіі, рускія звычайна задаюць пытанне: «А як быць з выкрадзеным Бурштынавым пакоем?» Гэтае пытанне было зададзена, у прыватнасці, Валянцінай Матвіенка на прэс-канферэнцыі ў адказ на пытанні журналістаў, датычныя вяртання ў Германію Брэменскай калекцыі. Мне здаецца, новая Расія павінна знайсці ў сабе мужнасць пакончыць са старым прапагандысцкім міфам.

## *Шэкспір быў жанчынай*

На кангрэсе, прысвечаным творчасці геніяльнага драматурга Вільяма Шэкспіра, які праходзіў у горадзе Стрэдфорд-он-Эйвон, амерыканскі вучоны Робін Уільямс заявіў, што Шэкспір насамрэч быў жанчынай, а менавіта оксфардскай графіняй Мэры Пемброк (1561–1621).

Графіня мела надзвычайную адоранасць да прыгожага



пісьменства, ёй належаць выдатныя літаратурныя творы, але яна не магла адкрыта, пад уласным імем, пісаць для тэатра, які ў тыя часы ў Англіі лічыўся амаральным. Таму яна вырашыла пісаць п'есы пад псеўданімам тэатральнага дырэктара Шэкспіра.

Варта звярнуць увагу, што поўнае выданне драматычных твораў Шэкспіра было прысвечана графам Пемброку і Мантгомеры, а гэта – сыны графіні. У сваіх санетах Шэкспір часта звяртаецца да мужчын. Вучоны лічыць, што тут не варта гадаць аб гомасэксуальным каханні. Вершы напісаны графіняй Пемброк, калі ў яе з'явіўся малады каханак.

Паэт Бен Джонсан з захапленнем называў Шэкспіра «нежны лебедзь Эйвона». Як стала вядома, маёнтак графіні Пемброк знаходзіўся менавіта на гэтай рэчцы, а яе асабістым сімвалам быў лебедзь.

Графіні Пемброк давялося зведаць у жыцці нямала бедстваў. «Калі яна перажыла некалькі цяжкіх стратаў, драмы Шэкспіра сталі больш змрочныя. Па часе напісання гэта супадае з неабвержнай дакладнасцю», – гаворыць Уільямс. З амерыканскім вучоным пагаджаецца і Маргарэт Ханей, якая напісала біяграфію Мэры Пемброк. На яе думку, графіня цалкам магла выдаваць сябе за вялікага англійскага драматурга.

З усіх версіяў, звязаных з пошукамі аўтара, які хаваўся пад прозвішчам малапрыкметнага ў жыцці тэатральнага дырэктара, версія аб аўтарстве графіні Пемброк – найбольш рамантычная і верагодная.

## *Малпы авалодваюць тэлекінезам*

Прагрэс не стаіць на месцы і, магчыма, у хуткім часе будзе рэальна пераключаць каналы тэлевізара з дапамогай сілы думкі.

Распрацоўкамі ў гэтай галіне ведаў займаецца група вучоных пад кіраўніцтвам прафесара нейрабіялогіі доктара Мігеля Ніколеліса з універсітэта Дьюк (штат Паўночная Караліна, ЗША). Пакуль што эксперыменты праводзяцца выключна на самых блізкіх сваяках людзей – малпах. У розныя ўчасткі мозгу жывёл імплантавалі мікразонды, якія дазваляюуь счытваць думкі і перадаваць іх на камп'ютэр.

Затым вучоным удалося навучыць малпаў управляць курсорам на экране камп'ютэра. Напачатку малпы карысталіся джойсцікам, атрымоўваючы трохі соку ў якасці ўзнагароды за свае поспехі. Потым джойсцік адключылі, а кіраванне было перададзена мозгу жывёлін. Да немалога здзіўлення даследчыкаў, малпы хутка даўмеліся, што могуць перасоўваць курсор з дапамогай думкі. Наступнай задачай стала перадача камандаў ад электроннага мозгу да механічнай рукі, здольнай рухацца і выконваць хапальныя рухі. У гэтым выпадку на навучанне жывёл спатрэбілася ўсяго два дні, на працягу якіх малпы змаглі супаставіць асаблівасці руху рукі з уласнымі рухальнымі імпульсамі. Пад канец навучання малпы навучыліся кіраваць штучнай рукой як сваёй уласнай.

Вучоныя ўстанавілі, што сігналы, якія падае мозг чалавека, вельмі падобныя на сігналы падвопытных малпаў, а гэта азначае, што ў будучыні магчыма стварэнннне камп'ютэраў, упраўляць якімі можна будзе цалкам намаганнем волі.

У перспектыве тэхналогія можа прымяняцца для абслугоўвання паралізаваных людзей.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288–23–52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія № 02330/0056677 ад 29.03.2004 г.
220004, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 474
Падпісана да друку 14.07.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.